



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

23 лістапада 2018 года №47 (1230)




# Як запраўляцца, каб не пераплачваць за паліва




старонкі 20-21

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.



старонка 5


ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Ля царквы на Старым Месце збіраюць астанкі нямецкіх салдат

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты» распавёў маладзечанец мастак **Святаслаў Палівода**, які жыве побач з месцам раскопак.

– Заўважыў, што пару дзён ужо працуе маленькі экскаватар проста на цвінтары. Падышоў да вайскоўцаў, што там працуюць, распытаў, – кажа Святаслаў.

Тыя расказалі, што на царкоўным двары, згодна са знойдзенымі дакументамі, – пахаванне часоў Другой сусветнай вайны. Ад 1941 да 1944 года тут пахавалі 210 нямецкіх салдат. Цяпер іх астанкі збяруць і перапахаваюць у нейкім спецыяльным месцы. На Міншчыне такіх два.

– Я сам з 1945 года, – кажа Святаслаў Палівода. – Дзіцем часта гуляў на гэтым месцы. А дарослыя казалі: «Не гуляй, бо зараз вылезе немец і схопіць за нагу». Як бачыце, пра пахаванні людзі ведалі заўсёды.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Сталыя людзі змогуць жыць у замяшчальных сем'ях

ВАЛОЖЫН

У Валожынскім тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання прадугледзелі новую форму працы для абслугоўвання сталых людзей.

Паслуга называецца «замяшчальная сям'я». Сутнасць яе ў тым, каб дапамагаць пажылым ці недзеяздольным людзям ва ўмовах сумеснага з імі пражывання.

Як распавялі ў цэнтры, карыстацца такой паслугай змогуць непрацуючыя інваліды першай або другой груп, а таксама адзінокія людзі, якім ёсць 70 год.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Смаргоні хочуць спілаваць 25 яблынь

СМАРГОНЬ

У інтарэсах ЖРЭС Смаргоншчыны плануюць спілаваць яблыні ля дамоў №18 і №22 па Чапаева і дома №26 па Гагарына.

Падстава для высякання: дрэвы знаходзяцца ў небяспечным стане, іх галіны ўсохлыя больш за 50%, разбураецца кара на большай частцы ствала, ёсць стваловая гніль, дрэвы нахіленыя на пешаходныя дарожкі.

**Паводле SHLIAH.BY.**

## У Крэўскім замку знайшлі бутэлькі ад піва, якім больш за стагоддзе

СМАРГОНЬ.

Працягваючы рэстаўрацыю Крэўскага замка, работнікі ўбачылі цікавую знаходку.

У адной з адтулінаў забутоўкі знайшлі бітае шкло. Аказалася, што гэта бутэлькі ад лідскага піва канца 19 стагоддзя.

– Кут перад Першай сусветнай вайной быў у разбураным стане. Падчас вайны немцы ўмацоўвалі бетонам. Відаць, тады шкло туды і трапіла, – распавёў навуковец даследчык Крэва **Алег Дзярновіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У заказніку на Валожыншчыне аздаровяць зуброў

ВАЛОЖЫН

У рэспубліканскім ландшафтным заказніку «Налібоцкі» плануюць генетычнае аздараўленне мікрапапуляцыі еўрапейскага зубра.

Гэта стане часткай рэалізацыі праекта «Ветландс», што фінансуе Глабальны экалагічны фонд і рэалізуе Праграма развіцця ААН у Беларусі сумесна з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

У заказніку прааналізавалі налібоцкую мікрапапуляцыю зуброў, даследавалі зімова-вясновае і летне-восеньскае прасторавае размеркаванне жывёл па тэрыторыі, па кармавых палях і сельскагаспадарчых угоддзях.

«У далейшым праектам плануецца абмен паміж асобінамі еўрапейскага зубра, каб палепшыць генетычны статус налібоцкай мікрапапуляцыі. Каб сабраць пробы біяматэрыялу, пабудуюць не менш за пяць жывапастак для зуброў», – распавялі ў прэс-службе Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Атрыманыя вынікі стануць асновай для генетычнага аздараўлення налібоцкай мікрапапуляцыі. Канчатковая мэта гэтых мерапрыемстваў – стварыць умовы для доўгачасовага захавання зуброў у Беларусі.

Дзякуючы праекту ў заказніку ствараюць лугавыя кармавыя ўгоддзі сярод суцэльных лясных масіваў. Для гэтага закупілі спецыяльную тэхніку.

**Паводле БелТА.**

# Мы выбралі фотаздымак на каляндар

**19 лістапада мы падвялі вынікі акцыі «Не губляй ніводнага дня». Сёлета ў ёй удзельнічалі 19 фотаздымкаў, якія агулам набралі 3631 голас.**



На нашым календары на 2019 год мы размесцім фотаздымак Іны Бажко з Маладзечна.

Удзельнічалі чытачы з Маладзечна, Вілейкі. Адзін фотаздымак даслалі са Стаўбцоўскага раёна.

Большасць супрацоўнікаў рэдакцыі прагаласавалі за фотаздымак **Іны Бажко**. Менавіта яе Лясную Дрыяду мы размесцім на календары на 2019 год. Каляндар ўкладзём у першы нумар новага года. Яго атрымаюць нашы падпісчыкі і рэкламадаўцы.

У глядацкім галасаванні перамагла **Вікторыя Маскалевіч** са Стаўбцоўскага раёна. Яе фотаздымак, зроблены ў Налібоцкай пушчы на Стаўбцоўшчыне, набраў 38% галасоў.

Таксама рэдакцыя вырашыла адзначыць яшчэ траіх удзельнікаў. Фатограф **Юры Горыд** з Астраўца атрымае падарунак за выключнае майстэрства. За фотаздымак Юрыя на каляндар галасавалі некаторыя з супрацоўнікаў рэдакцыі, але не набралі большасці.

Наш пазаштатны аўтар **Алесь Раткевіч**, жыхар Чысці, адзначаны за шматгадовую сувязь з «Рэгіянальнай газетай». На фотаздымку ён з героем сваёй публікацыі – 90-гадовым **Уладзімірам Барысевічам**, жыхаром вёскі Сакалоўка Вілейскага раёна. Матырыял пра гэтага чалавека мы друкавалі ў нядаўніх нумарах нашай газеты. Па глядацкім галасаванні Алесь Раткевіч быў на трэцім месцы.

**Таццяну Банковіч** з Маладзечна мы ўзнагародзім за гісторыю фотаздымка. На фота – яе дачка **Віялета**, дзяўчынка з інваліднасцю, якая змагла ажыццявіць сваю мару – палятаць на верталёце. Менавіта гэты момант адлюстраваны на здымку.

З усімі пераможцамі мы звяжамся і запросім іх у рэдакцыю, каб узнагародзіць.

**Аддзел інфармацыі.**

## Статак кароў здратаваў двор у Старадубаве

ВІЛЕЙКА

**У вёсцы Старадубава Іжанскага сельсавета, што на Вілейшчыне, гаспадар Франц Млечка зладзіў музей пад адкрытым небам. Усё добраўпарадкаваў, зрабіў добрую агароджу, для святла і прыгажосці паставіў невысокія свяцільнікі.**

Але на пачатку жніўня каровы, што належаць адкрытаму акцыянернаму таварыству «Чурлёны», здратавалі ўсю прыгажосць на двары Франца Мікалаевіча.

– Гэта здарылася ноччу з чацвертага на пятага жніўня, – расказаў ён карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты». – За кіламетры паўтара-два ад вёскі знаходзіцца паша, дзе пасуць кароў з гаспадаркі з Чурлёнаў. Відаць, пастухі недагледзелі за каровамі і яны ўсім вялізным статкам прайшліся па Старадубаве, у тым ліку і па маім двары. Дайшлі аж да дарогі Чурлёны-Любань.

Каровы зламалі агароджу з сеткі, а таксама пяць свяцільнікаў, што ўпрыгожвалі і асвятлялі двор. Тады гаспадар патэлефанаваў дыспетчару «Чурлёнаў». Прыязджалі галоўны заатэхнік і пастух, які ў тую ноч глядзеў за каровамі. Пабачылі ўсё паправіць.

Але вынікаў, кажа Франц Млечка, ён чакае да сённяшняга дня. Звяртаўся і ў Вілейскі райвыканкам, і ва ўпраўленне сельскай гаспадаркі Мінскай вобласці.

Мы звярнуліся да спецыялістаў таварыства «Чурлёны» з просьбай пракаментаваць гэты выпадак.

– У нас ёсць афіцыйны дакумент, у якім пазначана, што парадак у Старадубаве мы павінны навесці да канца лістапада, – расказала «Рэгіянальнай газеце» галоўны эканаміст, намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце **Таццяна Баравая**. – Ужо закупілі сетку, неабходную для агароджы. Набылі і свяцільнікі. Пытанне кантралюе Вілейскі райвыканкам. Да канца лістапада мы паспеем усё зрабіць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ПЫТАЛІСЯ – АДКАЗВАЕМ


Фота infoorel.ru

Магчыма, падобны аўтобус з'явіцца на Вілейшчыне.

# Суправаджальнікі інвалідаў першай групы на аўтобусах ездзяць бясплатна

ВІЛЕЙКА

**На Вілейшчыне можа з'явіцца аўтобусны маршрут для людзей з інваліднасцю.**

Гэтага дабіваецца жыхар Ільі **Віктар Філістовіч**, які ўжо некалькі год знаходзіцца ў інвалідным вазку. Віктар даслаў зварот у Вілейскі райвыканкам, паведаміў пра сваю ініцыятыву праз «Рэгіянальную газету». Мы далі тэлефоны, па якіх зацікаўленыя ў такім аўтобусе жыхары Вілейшчыны могуць звязацца з Віктарам. Днямі мужчына чакае адказу з райвыканкама. Кажа, калі не дачакаецца – будзе тэлефанаваць.

Па ўказаных тэлефонах да Віктара звярталася некалькі чалавек. Былі званкі са Старынак, Карпавічаў. Казалі, што такі аўтобус патрэбны, але прасілі, каб нідзе не гучалі іх прозвішчы.

На думку Віктара, не ўсе людзі ведаюць правы праезду людзей, якія суправаджаюць інвалідаў.

> **Некаторыя так і казалі: «Інваліда бясплатна павязуць, а мне, суправаджальніку, плаці».**

Мы звярнуліся ў Офіс па абароне правоў інвалідаў. Тут юрыст **Сяргей Драздоўскі** растлумачыў, што, згодна з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных сацыяльных льготах, правах і гарантыях для асобных катэгорый грамадзян», ад 14 чэрвеня 2007 года інваліды першай групы і асобы, якія іх суправаджаюць у гарадскім, прыгарадным і міжгародным транспарце, павінны ездзіць бясплатна. Выключэннем з'яўляецца толькі таксі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Сёлета беларускі рынак забяспечаць айчыннымі яблыкамі

Ураджай яблыкаў сёлета дазволіць Беларусі забяспечыць патрэбы ўнутранага рынку. Пра гэта паведаміў карэспандэнту БЕЛТА намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання **Уладзімір Гракун**.

Па словах намесніка міністра, у гэтым годзе плануюць сабраць каля 200 тысяч тон яблыкаў, што адпавядае патрэбам краіны.

«Думаю, у далейшым мы будзем мець ураджайнасць і валавыя зборы яшчэ вышэйшыя», – адзначыў Уладзімір Гракун. Да гэтага самы вялікі ўраджай яблыкаў быў сабраны ў Беларусі ў 2016 годзе – 140 тысяч тон.

Згодна з Дзяржаўнай праграмай развіцця аграрнага бізнесу, штогод у рэспубліцы павінна закладвацца не менш за 500 гектараў пладовых культур. Гэта задача выконваецца, сёлета ў тым ліку, праінфармаваў намеснік міністра.

У цэлым жа ў краіне пасаджана больш за 18 тысяч гектараў пладовых садоў інтэнсіўнага тыпу. «Сховішчаў ёсць на 103 тысячы тон, якія забяспечаць захаванасць позніх гатункаў яблыкаў і рэалізацыю ў міжсезонны перыяд», – адзначыў Уладзімір Гракун.

Кажучы аб якасці айчынных яблыкаў, ён падкрэсліў: «Нашы яблыкі займаюць годнае месца ў сетках. Па смакавых якасцях, таварным выглядзе яны нічым не саступаюць імпартным, пры гэтым кошт іх ніжэйшы, 70-80 капеек за кілаграм.

Беларусь можа частку яблыкаў экспартаваць. Гаворка ідзе аб нязначных аб'ёмах паставак у Расійскую Федэрацыю. «Але, перш за ўсё, перад намі стаіць задача забяспечыць унутраны рынак», – падкрэсліў намеснік міністра.

**Паводле БелТА.**

## Віляйчане выступаюць супраць аплаты капрамонту дома з уласных сродкаў

ВІЛЕЙКА

З гэтай нагоды жыхары дома №76 на Вадап'янава напісалі электронную петыцыю, якая праз 30 дзён накіруецца ў Вілейскі райвыканкам.

Заяўнікі кажуць пра тое, што ЖКГ адмаўляецца ўцяпляць тарцовыя сцены дома №76 па Вадап'янава, бо, паводле каэфіцыента цеплазасупраціўлення, уцяпленне ў гэтым доме не патрэбнае.

Аднак жыхары не разумеюць, чаму ў такім самым доме побач (Вадап'янава, 78), пабудаваным у адзін час, з аднолькавага матэрыялу, па адным праекце, уцяпленне патрэбнае, і выступаюць за тое, каб дом №76 адрамантавалі за сродкі мясцовага бюджэту.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.11 | 22.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1472 | **2.1061** |
| Еўра | 2.4250 | **2.3990** |
| Злоты, 10 | 5.6350 | **5.5670** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1620 | **3.1953** |
| Грыўня, 100 | 7.7140 | **7.5854** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **14.11** | **21.11** |
| Еўра | 2.4000/2.4300 | **2.3880/2.4080** |
| Долар ЗША | 2.1400/2.1580 | **2.0950/2.1150** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 14.11 | 21.11 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,60 | **4,60** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Баклажаны, 1 кг | 3,50 | **–** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,45** |
| Буракі, 1 кг | 0,75 | **0,75** |
| Капуста, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,80 | **1,70** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 3,20 | **3,30** |
| Перац, 1 кг | 2,70 | **4,95** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | **0,85** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,40** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Вінаград, 1 кг | 3,80 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | – | **3,00** |
| Ківі, 1 кг | 2,90 | **3,30** |
| Лімоны, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,80 | **3,70** |
| Хурма, 1 кг | 3,80 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | – | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У яме для адходаў знайшлі цела мужчыны

АШМЯНЫ

Следчыя высвятляюць прычыны гібелі мужчыны, чыё цела 9 лістапада знайшлі ў яме для адходаў у адной з вёсак Ашмянскага раёна. Па асноўнай версіі, гэта няшчасны выпадак.

Цела 51-гадовага мужчыны знайшоў яго сваяк каля прадпрыемства ААТ «Гальшанскі крухмальны завод» у яме з адходамі вытворчасці, жамерынамі, – адходамі пасля крухмальнай вытворчасці.

«Пры аглядзе бачных цялесных пашкоджанняў на целе не выяўлена. Каля ямы знаходзіўся воз з канём, якія належалі памерламу», – распавёў афіцыйны прадстаўнік абласнога УСК **Сяргей Шаршаневіч**.

Аказалася, у яму глыбінёй пяць метраў сістэматычна скідваюць адходы, але доступ да яе не абмежаваны. Гэтым карыстаюцца мясцовыя – самі дастаюць жамерыны і кормяць імі свойскую жывёлу. Следчыя лічаць, што гэтым жа займаўся мужчына: побач было вядро, а на яго ўчастку знайшлі тару з рэшткамі.

Па заключэнні экспертызы, прычынай смерці стала ўдушэнне адходамі крухмальнай вытворчасці; пры гэтым мужчына быў п'яны. Асноўная версія – няшчасны выпадак.

**Паводле tut.by.**

## Трое скралі ў мужчыны залаты пярсцёнак і срэбраны ланцужок

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 2 лістапада пасля пяці гадзін вечара ў парку Перамогі ў Маладзечне.

32-х і 34-гадовыя мужчыны, жыхары Маладзечна, а з імі 38-гадовая жанчына з Маладзечанскага раёна адкрыта скралі ў 41-гадовага мужчыны залаты пярсцёнак і срэбраны ланцужок. Агульная сума скрадзеных рэчаў – каля 250 рублёў.

Пацярпелы звярнуўся ў міліцыю. 16 лістапада завялі крымінальную справу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



## На Вілейшчыне згарэлі дровы і сцяна хлява

ВІЛЕЙКА

Пажар здарыўся каля пяці вечара ў вёсцы Падбярэззе Людвіноўскага сельсавета.

Загарэўся дах павеці, прыбудаванай да хлява. Пад павеццю ляжалі дровы і сельскагаспадарчы інвентар.

Калі прыехалі выратавальнікі, дах гарэў адкрытым полымем. У выніку згарэлі дах, адна са сцен хлява, частка дроў і інвентар.

Дом выкарыстоўваюць як лецішча.

– Прычыну пажару высвятляюць. Але вядома, што напярэдадні гаспадары прыязджалі на лецішча, – распавёў «Рэгіянальнай газеце» старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Дзмітры Кляшняк**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пераскочылі праз плот, каб патушыць машыну аднавяскоўкі

ВІЛЕЙКА

17 лістапада каля дзесяці вечара два жыхары вёскі Рабунь ішлі па вуліцы і ўбачылі, што з-пад капота аўтамабіля ў адным з двароў ідзе дым.

Мужчыны паспрабавалі трапіць у двор, аднак брамка была зачыненая на замок. Тады яны пераскочылі праз плот. Адзін з іх пачаў цягаць ваду з калодзежа. Другі ліў на капот машыны. У 22:14 выклікалі выратавальнікаў.

Пасля адзін з вяскоўцаў збегаў дадому за аўтамабільным вогнетушыцелем. У гэты час з дома выйшла гаспадыня аўтамабіля. Пачала дапамагаць, далучыўся і яшчэ адзін вясковец з вогнетушыцелем.

Калі прыехалі выратавальнікі, аўтамабіль «Форд» вяскоўцы ўжо патушылі самі.

– Ад агню згарэла ўсё абсталяванне ў маторным адсеку, а таксама лопнула лабавое шкло, – распавёў «Рэгіянальнай газеце» старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Дзмітры Кляшняк**.

Прычыну высвятляюць. Але, па словах спецыялістаў, гэта – не падпал. Хутчэй за ўсё, тэхнічная няспраўнасць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Праваабаронцы выступаюць за тое, каб дзіцячую працу забараніць зусім.

# У ААН разгледзяць скаргу па справе аб гібелі школьніцы на бульбе

МАЛАДЗЕЧНА

Камітэт па правах чалавека ААН прыняў да разгляду скаргу ад імя бацькоў школьніцы **Вікторыі Папчэні**, якая загінула на ўборцы бульбы восенню 2016.

Праваабаронцы хочуць дамагчыся поўнай забароны на прыцягненне дзяцей да сельгасработ у Беларусі.

Яшчэ ў красавіку праваабаронца **Леанід Судаленка** накіраваў у камітэт ААН скаргу ад імя бацькі дзяўчынкі. 19 лістапада зварот зарэгістравалі там пад нумарам 3265/2018.

Дакумент апублікаваў цэнтр «Гомельская вясна». Паводле працэдуры, скарга будзе афіцыйна накіраваная дзяржаве для падрыхтоўкі адказу па сутнасці. На гэта прадугледжаны тэрмін да 180 дзён.

– Прызнаюць ці не, пакажуць свае аргументы, – патлумачыў TUT.BY праваабаронца. Пасля гэтага бакі могуць выказацца ў адказ, а затым дакументы паступяць на разгляд. – Думаю, да 2021 года мы будзем мець рашэнне камітэта.

Сям'я Папчэняў просіць прызнаць: дзяржава пазбавіла дзіця права на жыццё праз выкарыстанне дзіцячай працы. «Сёння Кодэкс аб адукацыі «дапускае» выхаванне дзяцей працай. У судзе так і вырашылі: гэта быў «выхаваўчы працэс», а не праца. Мы хочам, каб з Кодэкса знікла гэта норма і была поўная забарона. Мы будзем рабіць усё, каб у кожнай школе было гэта рашэнне – каб астудзіць гарачыя чыноўніцкія галовы, якія адпраўляюць дзяцей на калгасныя палі», – патлумачыў Судаленка.

Ён адзначыў, што за два гады пасля трагедыі праваабаронцы не зафіксавалі ні аднаго выпадку прыцягнення дзяцей да сельгасработ. Школа і сельгасарганізацыя цалкам разлічыліся з сям'ёй школьніцы па рашэнні аб кампенсацыі маральнай шкоды.

Нагадаем, 29 верасня 2016 года падчас уборкі бульбы пад Маладзечнам загінула вучаніца 8-га класа 13-гадовая Вікторыя Папчэня – на яе наехаў грузавік. Кіроўцу прысудзілі да трох гадоў абмежавання волі. А двух настаўніц школы за недагляд – да двух гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову.

**Паводле tut.by.**

## Хацела скрасці манекен з жаночым паліто

МАЛАДЗЕЧНА

15 лістапада каля васьмі гадзін раніцы 32-гадовая жанчына, жыхарка Маладзечаншчыны, хацела скрасці манекен, апрануты ў жаночае паліто, з гандлёвага месца на рынку ў Маладзечне.

Скарыстаўшыся тым, што прадавец страціў пільнасць, жанчына схапіла манекен з паліто, што каштавала каля 130 рублёў.

Скрасці рэч у жанчыны не атрымалася. Каля рынку яе затрымалі прахожыя, паведамляюць на сайце УУС Мінаблвыканкама.

15 лістапада завялі крымінальную справу.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## З лецішча вынеслі самавар, сумку і падаўжальнік

ВІЛЕЙКА

Крымінальную справу па гэтым здарэнні ўзбудзілі 20 лістапада.

У міліцыю звярнуўся жыхар Вілейкі і паведаміў, што, пакуль ён адсутнічаў у сваім дачным доме ад пятага па дзявятага лістапада, што знаходзіцца ў гэтым жа горадзе, нехта скраў з дома самавар, падаўжальнік і дарожную сумку. На лецішча злодзей патрапіў, высціснуўшы шыбу з акна.

Шкода склала амаль 110 рублёў. Падазравана ў крадзяжы затрымалі. Ім аказаўся 33-гадовы мясцовы жыхар.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Хацеў скрасці ровар у пенсіянеркі з Краснага

МАЛАДЗЕЧНА

19 лістапада 32-гадовы мужчына хацеў скрасці ровар з хлява пенсіянеркі ў Красным.

Ровар каштаваў 200 рублёў. Скрасці яго ў мужчыны не атрымалася. Фігуранта затрымалі.

У гэты ж дзень узбудзілі крымінальную справу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Згарэў гараж з машынай

АСТРАВЕЦ

Пра пажар у прыватным двары ў Астраўцы паведамілі 16 лістапада каля шасці раніцы.

Гарэў драўляны гараж. У выніку агонь знішчыў дах, перакрыцці. Згарэў таксама аўтамабіль «Опель-Амега», што стаяў у гаражы.

Папярэдняя прычына – кароткае замыканне праводкі аўтамабіля.

**Паводле сайта МНС.**

# Зрабіць УЗІ і атрымаць кансультацыю хутка і якасна ў новым медцэнтры

**Своечасовае даследаванне можа ратаваць жыццё або дапамагчы ў назначэнні лячэння. Каму варта наведаць новы медыцынскі цэнтр «ПрафМед».**

Піша Таццяна КАСЬЯН.

МАЛАДЗЕЧНА

Медыцынскі цэнтр адкрыў дзверы для тых, хто клапоціцца пра сябе. У «ПрафМедзе» прапануюць якасную ўльтрагукавую дыягностыку (УЗІ), кансультацыі вузкіх спецыялістаў – кардыёлага, неўролага і эндакрынолага. Да іх можна як запісацца, так і трапіць пасля УЗІ з заключэннем.

Толькі кардыёлаг зможа правільна дыягнаставаць і вылечыць сардэчна-сасудзістыя хваробы. Няправільную колькасць гармонаў заўважыць эндакрынолаг. А менавіта з-за іх недахопу ці лішку чалавек можа, напрыклад, пачаць хутка таўсцець. Дыягностыкай і лячэннем хвароб, звязаных з нервовай сістэмай, займаецца неўролаг. Самая частая скарга, з якой звяртаюцца да неўролага, – болі ў спіне або ў шыі. Вузкія спецыялісты заўсёды запатрабаваныя. Паслугі ў цэнтры аказваюць дактары толькі першай і вышэйшай катэгорый.

**«ПрафМед» працуе ад 9 да 19 гадзін ад панядзелка да пятніцы, у суботу – ад 9 да 15 гадзін, у нядзелю – выхадны.**

Даследаванні праводзяцца ў зручны час і дзень для пацыента. Каб трапіць на прыём, трэба толькі запісацца па тэлефоне. Кіраўніцтва абяцае, што чакаць чаргі давядзецца не больш за тыдзень.

З нагоды адкрыцця мы пагутарылі з загадчыкам аддзялення дыягностыкі і кансультацый «ПрафМеда» **Наталляй Міхайлаўнай Аляксеенкай**.

Наталля Міхайлаўна раней працавала тэрапеўтам. Але захацела больш вузкай спецыялізацыі, прайшла перападрыхтоўку. Цяпер сумяшчае працу доктара ўльтрагукавой дыягностыкі ў гарадской паліклініцы і ў цэнтры.

– Хачу, каб маім пацыентам была зробленая максімальна якасная дыягностыка, таму прыйшла працаваць у «ПрафМед». Менавіта тут раблю УЗІ ўнутраных органаў, мяккіх тканак, вен, артэрый, шчытападобнай залозы, суставаў, слінных залозаў.

Суставы глядзяць на наяўнасць вадкасці, высвятляюць, ці ёсць запаленне. Даследуюць сасуды ног, што неабходна для пацыентаў з цукровым дыябетам, сасуды шыі для прафілактыкі інсультаў і атэрасклератычных бляшак. Прыпухла шчака? Сходзіце на УЗІ слінных залоз, каб пазбегнуць гнойнага працэсу. За гэтымі даследаваннямі людзі раней ездзілі ў сталіцу.

Таксама ў цэнтры робяць УЗІ сэрца, малочных залоз і гінекалагічнае УЗІ.

### Якія перавагі мае УЗІ

- УЗІ – адзін з этапаў комплекснага даследавання, які ўключае і агульнапрынятыя віды ўльтрагукавога даследавання, і больш вузкія;
- дапамагае дыягнаставаць большасць органаў і сістэм, паўторна даследаваць для ўдакладнення дыягназу, дынамікі развіцця хваробы і ходу лячэння;
- характарызуецца адсутнасцю супрацьпаказанняў, хуткасцю даследавання і атрыманнем якаснай і дастаткова поўнай карціны пэўнага органа;
- бяспечны для цяжарных і дзяцей, безбольны і даступны метад даследавання;
- па УЗІ можна знайсці аб'ёмныя ўтварэнні на ранніх стадыях развіцця, што актуальна пры росце анкалагічных захворванняў.

Адной з асаблівасцяў апаратуры ў медыцынскай установе з'яўляецца магчымасць выкарыстоўваць новы метад даследавання – эластаграфію – для пацыентаў з хваробамі шыйкі маткі і малочных залозаў. Гэта функцыя дазваляе з дакладнасцю да 98% казаць, у чалавека рак ці дабраякаснае ўтварэнне.

Дактары раяць штогод праходзіць дыягностыку ўсім пасля 35 гадоў. Нават калі нічога не хвалюе.

– Маладзечанцам і людзям з рэгіёна больш не трэба ехаць у Мінск ці некалькі месяцаў чакаць чаргі. А ёсць жа хворыя з мыліцамі ці людзі, якіх няма каму суправаджаць. Цяпер яны могуць з камфортам кантраляваць здароўе ў нашым цэнтры.

### Якія анамаліі можа знайсці дыягностыка

Доктар УЗІ даследуе арганізм чалавека. Калі са здароўем непарадак, рэкамендуе, куды звярнуцца далей. Раздрукаваны здымак даследавання і заключэнне доктара пацыент атрымлівае адразу.

УЗІ дапамагае знайсці анамаліі ў арганізме. Напрыклад, заўважыць, што ў чалавека толькі адна нырка. Ці падваенне мачаточніка.

### Выпадкова знайшлі рак скуры

Часта людзі прыходзяць абследаваць адзін орган, а дактары знаходзяць праблемы ў іншым.

– Аднойчы прыйшла жанчына на УЗІ брушной поласці. Мне не спадабалася радзімая пляма крыху вышэй за пояс. Выпірала над скурай, цёмнага колеру, шурпатая, няправільнай формы. «Ніколі не даследавала пляму, проста радзімка, чаго ёй займацца», – кажа жанчына. Падчас абследавання апісала пляму як утварэнне, завяла «за руку» да анколага. Той узяў біяпсію. Дыягназ – рак скуры. Радзімку выдалілі. Жанчына дзякавала за своечасовую дапамогу, цяпер назіраецца ў доктара.




Апарат УЗІ экспертнага класа.

**Калі анамалію своечасова заўважыць, можна пазбегнуць мноства праблем са здароўем. Наталля Міхайлаўна лічыць, што лепш папярэдзіць хваробу, чым потым лячыць.**

### Можна атрымаць якасную кансультацыю

Для тых, хто мае стэнакардыю, сардэчную недастатковасць, арытміі і іншыя сардэчна-сасудзістыя захворванні, цэнтр прапануе кансультацыйны прыём кардыёлага. Гэтыя хваробы лічаць найбольш небяспечнымі ў сучасным свеце.

Самыя частыя сардэчна-сасудзістыя захворванні – гіпертанія, ішэмічная хвароба сэрца, атэрасклероз. Разам з болямі ў вобласці сэрца, значнымі сімптомамі сардэчна-сасудзістых захворванняў з'яўляюцца частае сэрцабіцце, галаўныя болі, галавакружэнні, нават кашаль.

Сімптомы неўралагічных хвароб таксама разнастайныя. Калі чалавек пакутуе на парушэнні памяці, зроку, слыху, сутаргі, панічныя атакі – у «ПрафМедзе» можна атрымаць кансультацыю неўролага. Спадчыннасць, уздзеянне таксінаў, праСтуда і іншыя фактары садзейнічаюць развіццю неўралагічных захворванняў.

Таксама ў цэнтры можна атрымаць кансультацыю эндакрынолага. Калі вы хутка стамляецеся, празмерна пацееце, маеце парушэнні сну, частае сэрцабіцце, да яго неабходна звярнуцца.

Сярод эндакрынных захворванняў добра вядомы цукровы дыябет. У цяперашні час пры ўсіх тыпах цукровага дыябету прагноз умоўна спрыяльны, пры адэкватным лячэнні і правільным харчаванні захоўваецца працаздольнасць пацыента. Прагрэсіраванне ускладненняў значна запавольваецца або цалкам спыняецца. Таму так важна звярнуцца да доктара своечасова. ■

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

- **МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
- **АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
- **АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
- **ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
- **ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
- **МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
- **СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАМ

• Мазда-Прэмасі, 2000 г.в., 1,8 бензін. У добрым стане. Т. (8-029) 5689198.*

• Рэно-19, 1992 г.в., 1,4 л., 1200 руб, торг. Т. (8-029) 5069521.*

• ФВ-Транспарцёр Т2, 1991 г.в., 1,6Д, МКПП, белы, 3000 руб., торг. Т. (8-029) 5214932.*

• Форд-Транзіт, 1997 г.в., 2,5 ТД, пасажырскі, 7950 рублёў, торг. Абмен. Т. (8-029) 5648002.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Колы з дыскамі Аўдзі А-6 R16 205*205 зіма, 4 шт., каўпакі, дыскі R 13, Опель, 4 шт. Т. (8-029) 7700689.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

## СПАЧУВАННЕ

Дарагія **Віктар, Зоя Касякі, Люда** і ўся ваша сям'я.

Прыміце самыя шчырыя нашы спачуванні. Ніхто ніколі не зможа зразумець і адчуць усю невычэрпнасць гора, якое вас напаткала. Мы разам з вамі ў гэтыя цяжкія дні. Трымайцеся. І помніце Андрэя вясёлым і ўпэўненым у сабе. Ён па-сапраўднаму любіў жыццё і гэтым заслужыў светлую памяць у сэрцах усіх, хто яго ведаў.

**Вашы Манцэвічы.**

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных паласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### МЯНЯЮ

• Пасат-3 на Жыгулі. Альбо прадам. Т. Вэлком (8-044) 7125657.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Шылавічах. Т. (8-029) 1358806.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агульная плошча 50 кв. м. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Віленскай, 31; агульная 48,7; жылая 28,4; с/в раздзельны; 3 паверх цаглянага дома. Т. (8-029) 8165933.

• 3-павярховы жылы дом у цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». 3 гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на другім паверсе па вул. Вольнай альбо абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Цана дагаворная.Т. (8-025) 5040563, (8-029) 8707275.

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 70 кв.м, на 3 паверсе. Перапланіроўка, рамонт, мэбля. Т. (8-029) 6632777.*



• Катэдж жылы ў а.г. Выверы, 4 км ад Маладзечна, 100% гатоўнасці, 114,1/31,7/42,4 кв. м, участак 0,19 га, гараж, усе камунікацыі, тэлефон, оптавалакно. Тэрмінова. Нядорага. Т. (8-044) 5463157.*

• Садовы ўчастак у Ласях (кааператыў «Брыльянт»), домік блочны, хлеўчык, сад, нядорага. Т. (8-033) 6407558.*

### ІНШАЕ

• Гандлёвы павільён на гарадскім рынку ў Вілейцы плошчай 25 кв. м. Т. (8-029) 1331698, (8-029) 5559694.*



## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Персанальныя насценныя квартальныя календары на 2019 год з вашым фота – 8 руб., з відамі Смаргоні – 6 руб. Якасная ксеракопія А4, А3 (і каляровая) – без чаргі. Фота на майку-кубак – 9 руб. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». Т. (8-01592) 31570.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*



• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцэр А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ.** Бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне пнёў – **СКІДКА**. **ВЫВАЗ** галля і драўніны. ІП Таўгень Е. П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*



# Маладзечанка апраналася ў сэкандах і назапасіла на мора

**Два гады таму Настасся працавала ў кіёску прадаўцом, атрымлівала 270 рублёў заробку. Гадавала маленькага сына – у той час ён наведваў дзіцячы садок. Рамантавала машыну, якая бясконца ламалася.**

Піша Таццяна КАСЬЯН.

МАЛАДЗЕЧНА

Адносіны з мужам склаліся так, што асаблівай дапамогі ад яго сям'я не атрымлівала. Грошай не хапала, таму адзенне набывала ў сэканд-хэндах. Цяпер яна апранаецца выключна там.

– Дзіцячая куртка ў краме каштуе 50 рублёў, у сэкандзе – 15, што нашмат танней. Вятроўку сыну, напрыклад, набыла за 12.

**Дзіця ў школу адправіла ў шэсць гадоў, бо гэта танней, чым вадзіць у садок.**

### Майку прапануюць за 50 капеек

Пастаянныя пакупнікі ў сэкандах разумеюць, што там таксама можна зэканоміць. Тонкую кофту для сябе Настасся набыла за пяць рублёў, у краме падобная каштуе 30. А калі звярнуць увагу на рэчы, якія прапануюць «на вагу», то майка можа абысціся ў 50 капеек! Бо чым больш ляжыць на прылаўку, тым становіцца таннейшай.

Другім фактарам, з-за якога Настасся вырашыла адмовіцца ад крам, – якасць адзення з сэкандаў. Наша гераіня носіць 58 памер адзення. Яна адзначае, што джынсы з рынку ў яе праціраліся вельмі хутка. Джынсаў з сэканда хапала на цэлы сезон. За двое джынсаў, набытых там, Настасся аддала 20 рублёў.

– Цёплыя кофты, паліто з крамы ці з рынку «абрасталі» катышкамі яшчэ да першага мыцця. Толькі аднойчы такое здарылася з патрыманай кофтай.

### На што звяртае ўвагу пры выбары рэчаў

Звычайна Настасся не глядзіць на фірму адзення. Але разумее, што рэчы ношаныя. Таму звяртае ўвагу на насычанасць колеру, наколькі яны расцягнутыя.

**Кажа, даволі часта можна сустрэць адзенне з біркамі, якое ніхто дагэтуль не насіў.**

Нядаўна набыла басаножкі за восем рублёў. Упэўненая, што не ношаныя, бо падэшва белая, не падрапаная, не зжаўцелая.

Маладзечанцы няпроста знайсці рэчы на свой памер. Па яе словах, на рынку адзенне вялікага памеру «бабскае». А ў сэкандах рэчы часцей моладзевыя, стыльныя. Настасся мяркуе, з-за таго, што многія амерыканцы злоўжываюць фаст-фудам, для іх шыюць шмат стыльнага адзення.

– Я спярша асцерагалася насіць ношаныя рэчы, а пасля вычытала такую штуку. Яны захоўваюць энергетыку гаспадара. Раблю так: купляю, праколваю яго швейнай іголкай некалькі разоў. Тады чужая энергетыка знікае.

У сэкандах Настасся не набывае толькі бялізну і шкарпэткі.

За 10 месяцаў Настасся назбірала 1000 рублёў і адправілася з сынам на адпачынак у Затоку.

Каб падрыхтавацца да мора, у сэкандзе набыла патрэбнае – майкі, шорты, кофты... І сабе, і дзіцяці.

**– Не ведаю, колькі людзей «падсадзіла» на падобную эканомію. Не саромеюся гэтага, апраналася не горш за іншых.**

У наступным годзе таксама хачу адпачыць на моры – цяпер ведаю, што гэта магчыма нават з заробкам 270 рублёў. ■

## Што думаюць маладзечанцы пра сэканды

**Наталля:** «Летам набыла ў сэкандзе шорты за шэсць рублёў і блузку за пяць. Шорты звычайныя чорныя, а вось блузка брэндавая, з кароткім рукавом, светла-блакітная. Выглядала, быццам яе ніхто да гэтага не насіў. Колер дагэтуль не змываецца. Рэчы мяккія і прыемныя да цела. У сэкандах можна знайсці якасныя рэчы крутых марак. Пайшла ў сэканд, бо ў крамах кошты пужаюць, звычайныя майкі прапаноўваюць па 20 рублёў у асноўным. А шорты і ўвогуле за 40».

**Дзмітры:** «Раз у два-тры месяцы набываю выключна «НАТАўскі» камуфляж – адзенне вытворчасці краін, якія ўваходзяць у блок НАТА. Больш за ўсе падабаецца амерыканскі ці англійскі. Кіцелі, штаны. Кошт вагаецца ад 15 да 70 рублёў, штаны, напрыклад, 20-40. Купіў бы яшчэ і зімовую куртку, але пакуль не падабраў. Мне падабаецца якасць тканіны і знешні выгляд. У крамах новае мілітарыстычнае адзенне каштуе як моднае цывільнае з буцікаў».

**Алена:** «Апошнія гады цэны ў сэкандах выраслі і практычна зраўняліся з цэнамі ў краме. Але тут можна знайсці фірменныя, добрай якасці, эксклюзіўныя рэчы, якіх не будзе ў іншых. Шмат дзіцячых рэчаў. Для іх нявыгадна набываць новае адзенне пастаянна ў краме. Тут у дапамогу – сэканды. Ці абмен у групах тыпу «Аддам задарма». Яшчэ мужчыны часта набываюць тут рабочае адзенне. Жанчыны – купальнікі, асабліва закрытыя, бялізну, якая карэктуе фігуру».

**Кірыл:** «Маці прыносіла мне з сэканда шорты, сабе кофты і блузкі. Для дома або працы сама тое. Адрозніваецца ад адзення, набытага ў краме, у першую чаргу коштам: ён значна ніжэйшы».

# Валанцёр з Чысці ратуе жывёл нават з-пад адстрэлу

МАЛАДЗЕЧНА

**– Дзі-Дзі, пакажы зайчыка, – камандуе Аліна. Сабака становіцца на заднія лапы, падымае пярэднія і боўтае імі ў паветры.**

Кватэра, падвал, хлеў. Менавіта тут у Чысці жывуць дванаццаць катоў і тры сабакі, якіх даглядае валанцёр **Аліна Львіцкая**. Акрамя Аліны і жывёл у кватэры жывуць маці і айчым дзяўчыны. Адзіны пакой раздзелены на дзве паловы. На Алінінай – два папугаі, дзве мышы, пара хамякоў, чарапаха і мадагаскарскі прусак Брондэрт.

– Каб 15 гадоў таму ведала, што будзе столькі катоў і сабак, дзверы на кухню не выкідвала б (заўвага «РГ»: у кватэры арка), – кажа маці Аліны і звяртаецца да дачкі: – Калі ласка, рабі, што хочаш, але толькі не на маіх вачах.

Маці дзяўчыны чытае па вуснах – чуе дрэнна.

### Валанцёр парушае правілы свядома

Згодна з Правіламі ўтрымання дамашніх сабак, кошак, а таксама адлову бадзяжных жывёл у населеных пунктах Рэспублікі Беларусь, нельга трымаць болей за дзвюх жывёл у кватэры шматкватэрнага жылога дома. Калі ў кватэры некалькі наймальнікаў ці ўласнікаў, не болей за адну жывёлу на сям'ю наймальніка ці ўласніка. Нельга ўтрымліваць незарэгістраваных жывёл.

**Аліна правілы парушае, але робіць гэта свядома. Мяркуе, лепш дапамагчы многім, чым з халодным сэрцам глядзець, як жывёлы паміраюць на вуліцы ад голаду і холаду. Ці як іх забіваюць «жывадзёры».**

Яна ўкладае шмат сіл, каб зрабіць камфортнымі ўмовы для ўтрымання гадаванцаў. Частка катоў жыве ў падвале дома, у спецыяльна абсталяваным пакоі за зачыненымі дзвярыма. Міскі з ежай, прыбіральні, «будкі», ляжанкі… Некаторыя жывёлы ўвогуле не заходзяць у кватэру – тут падабаецца больш.

### Суседскі кот прыходзіць пагрэцца

Пяць катоў выбягаюць з падвала насустрач гаспадыні. А вось Монід застаецца грэцца на цёплых трубах унутры. «У мяне ёсць знаёмы з такім прозвішчам. Усе смяюцца, што ў гонар яго назвала ката. Але жывёла проста адгукнулася на гэта імя. Называю літары «а, б…», на літары «м» кот паглядзеў на мяне. Потым тое ж здарылася з «о». Так і выбрала імя».

Побач з ім – кот суседкі Кузя. Ён часта прыходзіць да Аліны ў падвал пагрэцца і паесці. У ката падгніло вуха і брудны хвост. Кузі – два гады, але ніводнай прышчэпкі гаспадыня не зрабіла. Аліна спрабавала накарміць ката таблеткамі ад глістоў – расцерла з кормам. Кузя не з'еў – горка.

Яго гаспадыня хацела забраць у Аліны шэрага Коціка, але валанцёр не дазволіла. «Хоча, хай корміць, але мне важна, каб кацяняты траплялі ў добрыя рукі, каб за жывёламі даглядалі».

### Жывёл кормяць, але забіраць не хочуць

Праз інтэрнэт ў валанцёра забралі толькі чацвярых кацянят і траіх шчанюкоў. Часцей за ўсё – у Маладзечна. Дваіх шчанюкоў Аліна дапамагла ўладкаваць другой дзяўчыне. Нікога не прадавала – беспародных браць не хочуць.

– А мясцовыя кормяць, але не забіраюць. Думаю, з-за таго, што ва ўсіх адначасова кватэры, нязручна. Некаторыя суседзі наадварот лаюцца, што шмат катоў, могуць нават у бойку лезці.

### Зрабіла ашыйнік з флікера

Адна з суседак кідае з акна сасіску. Каты дружна кідаюцца да яе. Сціплы Коцік лапай б'е тоўстага Джунгарыка па вуху. «А я думаю, чаго яны корм не ядуць», смяецца Аліна.

– Знаёмыя ведаюць, што займаюся жывёламі, таксама ёсць суполка «УКантакце» для дапамогі. Часам людзі ашыйнікі аддаюць, вось, пальчатку падарылі, яна цяпер каля чатырох рублёў каштуе… – Аліна дастае з каробкі падарункі. – Рэмень у кагосьці быў непатрэбны, зашылі яго пад памер, атрымаўся ланцужок. А гэта звычайны флікер, яго я прыстасавала пад ашыйнік. Ва ўсіх маіх катоў ашыйнікі ад блох.

Па ветэрынара даводзіцца ездзіць у Маладзечна. Аліна кажа, яны ёсць у Красным, але паспрабуй іх «злаві». Вясной зрабіла прышчэпкі катам, потым месяц шукала дактароў, каб паставіць пячатку. У Чысці іх увогуле няма.



Аліна Львіцкая і сабака Муха.

### Як стала валанцёрам

Жывёл Аліна любіць з дзяцінства. Валанцёрства пачалося, калі будаўнікі, што рабілі новыя пад'езды ў горадзе, прывезлі старога ратвейлера. Дабудавалі і з'ехалі. Сабаку пакінулі. Знаёмыя дазволілі Аліне пратрымаць ратвейлера ў хляве. Гэта было каля васьмі гадоў таму.

Першай «афіцыйнай» кошкай стала Мацільда. Яна трапіла пад машыну, куды кінулася, спужаўшыся брэху чужога сабакі. Затым у двор да Аліны прыйшла персідская кошка Эрыка. Валанцёр яе забрала, два разы дачакалася кацянят. Эрыка загінула пад машынай, куды залезла пагрэцца.

– Добра, калі ведаеш, што з гадаванцам – аддаў ты яго ці пахаваў, а калі жывёла знікае, кожны дзень чакаеш вяртання, хвалюешся.

Вусатага Рыжыка з часам замяніў такі ж рыжы Малік. Яго абяцалі забраць новыя гаспадары, але пакінулі. Аліна выкормлівала кацяня з бутэлечкі.

### Дэні выжыў, але застаўся невідушчым

У кватэры нас гучным брэхам сустракае Дзі-Дзі, байцоўскі нямецкі тэр'ер дробнай пароды. Праз пару секунд ён ужо ліжа рукі, устае на заднія лапы, гуляецца. Але кусаць не спрабуе.

Тут жа, у калідоры, Бэці. Яна перанесла дзве аперацыі – стэрылізацыю і выдаленне пухліны. Ноччу Бэці любіць хлябтаць ваду з міскі для катоў, а днём іншы раз ляжаць на падсціле. Абодва сабакі прапісаныя ў кватэры, абодва маюць пашпарты.

Невідушчы кот Дэні адчувае, што ў кватэры чужыя, і хаваецца за тэрарыумам з пясчанкай Неграм. Яшчэ кацянём Дэні знайшлі дзеці, прынеслі Аліне. Праблемы з вачыма былі ў яго ўжо тады. Вытрымае аперацыю, забяру сабе, вырашыла валанцёр. Дэні выжыў, але застаўся невідушчым. Цяпер яму год.

У кацяняці Навічка таксама праблемы з вачыма – на адным бяльмо, другое падрапаў у бойцы. Яго браты ўжо памерлі: невядомая генетычная хвароба іх маці Мані не дазволіла ім жыць. Маню Аліна выратавала падчас адстрэлу, каб выкарміць некалькіх кацянят, – сама не паспявала. Пасля таго, як у кошкі з'явіліся хворыя нашчадкі, валанцёр яе стэрылізавала. Забіваць не бачыла сэнсу, прызнаецца Аліна, але калі жывёла нараджае хворых, навошта гэта працягваць.

### Як сабака выратаваў кацяня

З маленькай кошкай Малалеткай усё ў парадку, толькі браць яе чамусьці не хочуць. Яна любіць піць ваду з міскі, а малако – толькі з бутэлечкі.

Пяцімесячны Коцік беспародны. Аліна думала, ён не выжыве: былі маленькі і слабы. Яго маці Малютка збегла праз дзень пасля адной з прышчэпак. Аліна шукала яе, каб хоць «закапаць па-чалавечы», але так і не знайшла.

Кот Дзіма спрабуе залезці ў мой заплечнік. У Аліны ён з'явіўся выпадкова:

**– Гулялі неяк з Дзі-Дзі. Бачу, ля сметніцы сядзіць кацяня, на яго венікам замахваецца дворнік, трапляе палкай паміж лапаткамі і галавой. Дзі-Дзі брэша на яго, падыходзіць да кацяняці, акуратна бярэ яго за шкірку і нясе да нашага пад'езда».**

### Ці займаецца ператрымкай

Аліна праводзіць «экскурсію» ў хлеў. Па дарозе паспяваем пакарміць катоў на сметніку кашай з сечкі і рыбай. Гэтых жывёл Аліна не ведае.

Менавіта ў хляве жыве сабака Муха, якога ў наступным годзе абяцалі забраць. Валанцёр гуляе з ім, корміць, пакуль будучы гаспадар будуе новы дом.

– Калі хлеў абгарадзілі плотам, часта да яго падыходзілі дзеці, клікалі: «Муха, Муха». Пытаюся, чаго клічаце, сабака ваш? Забірайце. «Дык няма куды». А навошта клікаць, калі няма дзе трымаць, – абураецца Аліна.

Муха круціцца ля валанцёра, устае на заднія лапы, «абдымае».

Да зімы хлеў плануюць абцягнуць плёнкай, уцяпліць. Для гэтага патрэбныя любыя рэчы – матрацы, кофты, анучы для падсцілу. Нават парады будаўнікоў, як зрабіць камфортныя для сабакі будынак. Аліна прызнаецца, што працуе прыбіральніцай на палову стаўкі.

– Дапамагаю жывёлам, як магу, але можа нехта таксама захоча далучыцца. Дапамога лішняй ніколі не бывае.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

Калі хочаце дапамагчы, тэлефануйце Аліне: **(8-044) 452-24-48.**

# Маладзечна ў фокусе

## Фотамарафон з'яднаў пенсіянераў, школьнікаў, журналістаў і актывістаў

МАЛАДЗЕЧНА

**17 лістапада амаль 12 гадзін працягвалася мерапрыемства, якое зладзіла Маладзечанская філія Беларускай асацыяцыі журналістаў для тых, хто любіць фатаграфаваць, і тых, хто любіць свой горад.**




Старшыня Маладзечанскай філіі БАЖ Зоя Хруцкая (справа) узнагароджвае пераможцу фотамарафону Арыну Тархан.

Дзень пачаўся трэнінгам па фотаздымцы, які праводзіў маладзечанец **Сяргей Лескець**. Сяргей – сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў, пазаштатны аўтар «Рэгіянальнай газеты», фатограф, які супрацоўнічае з замежнымі выданнямі, ладзіць выставы ўласных здымкаў па-за межамі Беларусі.

### Спачатку – дзяўчынкі, кветачкі

Сяргей распавёў пра свой досвед супрацы з Бі-Бі-Сі і іншымі замежнымі арганізацыямі. Падзяліўся сакрэтамі прафесійнага майстэрства. На думку Сяргея, многія людзі ў нашым грамадстве пакуль яшчэ не «дараслі» да таго, каб успрымаць сапраўды высокамастацкія фотаздымкі. Большасць па-ранейшаму вабіць пазіраванне на фоне яркіх дываноў і канапаў і традыцыйныя вясельныя здымкі з кветкамі на фоне помнікаў.

– Сёння ў Беларусі не так шмат людзей робяць рэпартажныя здымкі. Заўважыў, што каб да іх прыйсці, ці не ўсе праходзяць некалькі этапаў. Спачатку – кветачкі, дзяўчаткі. Калі здымаюць на прыгожых фонах дзяўчат, якія падабаюцца. Затым – людзі без пэўнага месца жыхарства, часам – нецвярозыя. І вось потым, нарэшце, пачынаецца сапраўдная рэпартажная здымка.

Яшчэ, на думку Сяргея, фатограф не павінны мець нейкіх правілаў, па якіх яму здымаць. І калі на фота трэба адрэзаць чалавеку галаву, варта рэзаць, калі гэта будзе апраўдана.



Сяргей Лескець праводзіць трэнінг.




Ігар Палынскі.

### Здымалі чырвоны, жоўты, блакітны

Атрымаўшы тэарэтычныя веды, удзельнікі разышліся на 40-хвілінны фотамарафон: блукалі па горадзе і здымалі. Але здымалі не проста так. Кожны павінны быў адлюстраваць на сваіх працах пэўны колер. Таму на ўжо раздрукаваных фота жаўцелі сакавітыя лімоны на рынку, асляпляў блакіт чыстага лістападаўскага неба, усміхаліся маладыя людзі ў чырвоным адзенні з бліжэйшага рэкламнага білборда.

Фотамарафон аб'яднаў людзей розных па ўзросце і сферах дзейнасці. Любоў да фота аб'яднала і пенсіянера, былога супрацоўніка МНС **Уладзіміра Астахновіча**, і школьніцу **Арыну Тархан**, і візажыста **Лізавету Дубінскую**, і журналіста-фрылансера **Яўгена Сухаверха**.

### Маршрут квэста прайшоў па Вялікім Гасцінцы

Аднак наша мерапрыемства фотамарафонам не скончылася. Арганізатары падрыхтавалі квэст па Маладзечна. Да яго, акрамя фатографаў, далучыліся жыхары горада, гарадскія актывісты. Удзельнікі, падзеленыя на тры каманды, бегалі па Вялікім Гасцінцы, выконвалі заданні.

Станцыі размяшчаліся ў рэдакцыі, на першым паверсе гандлёвага цэнтра, у скверы ля касцёла, бібліятэцы, гарадскім парку. А сярод інструментаў, неабходных для выканання заданняў, былі запалкі, бутэлька з вадой, пластыкавая талерка і нават ёд.

У выніку сабралі пазл з надпісам «Маладзечна – горад Сонца». А маршрут спецыяльна пабудавалі такім чынам, каб хутчэй дайсці да месца вячэры.

### Закончылі падарункамі і музыкай

Пасля квэста і вячэры ўдзельнікі сабраліся ва ўтульнай малой зале музычнага каледжа. Тут зладзілі фотасушку з найлепшых здымкаў, зробленых падчас фотамарафону і фотапрац Сяргея Лескеця.

Арганізатары падвялі вынікі фотамарафону і квэсту. У фотамарафоне перамагла школьніца з Маладзечна **Арына Тархан**. Па словах Сяргея, фотаздымкі Арыны вызначаліся якасцю, сістэмным падыходам, выглядалі як серыя. Пераможца атрымала сэлфі-палку.

У квэсце лепшымі стала каманда «Сонейка» з капітанам **Кацярынай Палонскай**. Пераможцы і ўдзельнікі атрымалі сувеніры. Адзначылі і самую маленькую ўдзельніцу квэста – 11-гадовую **Дашу Высоцкую**.

Канцэрт супрацоўніка «Рэгіянальнай газеты» сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў **Ігара Палынскага** стаў падарункам для тых, хто змог вытрымаць амаль 12-гадзіннае мерапрыемства. Падчас канцэрта Ігар правёў конкурс-аўкцыён, дзе гледачы павінны былі прыгадаць беларускія рок-гурты і спевакоў.

А падарункам для арганізатараў было пытанне ўдзельнікаў «А калі ў наступны раз вы зладзіце нешта падобнае?»

### Удзельнікі: атрымалі веды, яркія ўражанні, адрэналін

**Кацярына Палонская**, удзельніца фотамарафону і квэсту:

– Пра фотамарафон даведалася выпадкова ў адной з суполак у сацсетках. Разам з сяброўкай Лізай зарэгістраваліся. Уражанні і эмоцыі ад сустрэчы – яркія і невытлумачальныя. Мы даведаліся шмат новага пра фота, зарадзіліся пазітывам на бліжэйшыя месяцы. З задавальненнем наведаем іншыя мерапрыемствы Беларускай асацыяцыі журналістаў.

**Таццяна Семашкевіч**, удзельніца квэста:

– Нам з мужам вельмі спадабаўся квэст, які маладзечанская філія БАЖ ладзіла ў горадзе. Мы ў сям'і любім розныя прыгоды. Таму квэст – гэта якраз той адрэналін, які нам трэба. Рады былі паўдзельнічаць, даведацца нешта новае пра свой горад. Вельмі прыемна было дзяліцца ўражаннямі ў кампаніі аднадумцаў. Запомніўся і яскравы канцэрт Ігара Палынскага ў музкаледжы Агінскага ў Маладзечне. Дзякуй за цудоўны суботні вечар.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Уладзіслаў Страмінскі – выпрабаванне лёсам

**21 лістапада – 125 год з дня нараджэння Уладзіслава Страмінскага (1893–1952), мастака-авангардыста, героя Першай сусветнай вайны, частка жыцця і творчасці якога звязаная і з Вілейкай.**

У дзень 125-гадовага юбілею Уладзіслава Страмінскага, выставачная зала Вілейскага краязнаўчага музея зладзіла вечарыну. Што звязвае сусветнавядомага мастака і Вілейку?

Лёс звязаў жыццё вядомага мастака з Расіяй, Літвой і Польшчай. Але большасць наватарскіх ідэй ён выпрабаваў тут, у Беларусі. У біяграфіі Страмінскага знакавыя месцы займаюць некалькі гарадоў.

Мінск, дзе нарадзілася будучая зорка авангарда. Масква, дзе пазнаёміўся са сваёй жонкай і выдатным скульптарам **Кацярынай Кобрай**. Віцебск, дзе ён прайшоў школу аўтара «Чорнага квадрата» Казіміра Малевіча. Вільня, дзе мастак ладзіць сваю першую выставу. Лодзь, дзе Страмінскі стаўся і як творца, і як тэарэтык унізму. І Вілейка, на якую прыпадаюць два не менш важныя перыяды яго жыцця.

У сярэдзіне 1922 года са Смаленска Уладзіслаў Страмінскі і Кацярына Кобра вырашылі пераехаць у Вілейку, дзе па вуліцы Арлоўскага, цяпер – Дзяржынскага, жылі родныя Уладзіслава: маці і малодшы брат, Валяр'ян.

Тут Страмінскі выкладае малюнак у мясцовай гімназіі імя Генрыка Сянкевіча. У Вілейцы ён пачынае маляваць сінтэтызаваныя вобразы – гэта было станаўленне першага этапу мастацкай рэалізацыі ў творчасці тэорыі ўнізму.

У 1924 годзе Страмінскі пераязджае ў Вільню, пасля ў Лодзь, дзе стварае музей сучаснага мастацтва, аб'ядноўвае вакол сябе аднадумцаў. Ён становіцца вядомым у еўрапейскіх мастацкіх колах, адкрывае мастацкія выставы ў Бельгіі, Галандыі, удзельнічае ў восеньскім салоне ў Парыжы.

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна, Лодзь акупаваная немцамі. Шукаючы паратунку, 10 верасня 1939 года Уладзіслаў Страмінскі зноў вяртаецца да сваіх родных у Вілейку. Выкладае ў гімназіі, пазней працуе мастаком-афарміцелем і актыўна ўключаецца ў культурнае жыццё горада. Тут, у Вілейцы, ён стварае свой слынны графічны цыкл малюнкаў «Заходняя Беларусь».

Пражыўшы ў Вілейцы дзевяць месяцаў, у сярэдзіне мая 1940 года Страмінскія зноў вяртаюцца ў Лодзь. Тут, абапіраючыся на вілейскія дасягненні, мастак працягвае працу над новымі графічнымі цыкламі.



Уладзіслаў Страмінскі.

Сёння мастацтва Уладзіслава Страмінскага вядомае і прызнанае ва ўсім свеце. Імя мастака прысвоенае Польскай акадэміі мастацтваў. Аб ім напісаныя кнігі, зняты дакументальныя і мастацкія фільмы.

На Вілейшчыне памятаюць і шануюць імя Страмінскага. У 2013 годзе ў Вілейцы каля кінатэатра ўстаноўлены памятны знак. «Крок ад вайны да мастацтва» – герою Першай сусветнай вайны прысвяціў свой мастацкі твор і **Барыс Цітовіч**. Карціну можна пабачыць у часовай экспазіцыі Вілейскага краязнаўчага музея «Дзве вайны – памяць адна». У чэрвені прайшоў VII раённы дзіцячы пленэр, прысвечаны 125-годдзю мастака.

Сваю новую працу «Вобразы» падрыхтаваў і мастак **Эдуард Мацюшонак**. Карціна была прадстаўленая падчас вечарыны памяці 21 лістапада.

**Вольга КОЛАСАВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Як сялянка з Маладзечаншчыны выратавала жыццё нямецкаму салдату

МАЛАДЗЕЧНА

**Сем дзесяцігоддзяў прайшло з пачатку Вялікай Айчыннай вайны, а яна і сёння адгукаецца ў сэрцах многіх мільёнаў людзей.**

Зламаліся шматлікія лёсы, хтосьці назаўсёды апынуўся за мяжой. А некаторыя, як жыхар Германіі **Гельмут Айххорн**, знайшлі другую радзіму. Для нашага героя ёй стала Маладзечаншчына.

У час гастрольнай паездкі народнага камернага аркестра рускіх народных інструментаў нашага горада, жывучы ў нямецкіх сем'ях, мы міжволі закраналі ў гутарках тыя цяжкія гады. Так, нашы гаспадары або іх бацькі былі салдатамі. А салдат, як вядома, заўсёды павінны выконваць загад. Гэта прынцып дзеяння любой арміі.

Можна вінаваціць асоб, якія ўцягнулі народы ў вайну, але толькі не людзей, якія гэтага не хацелі. Шмат было ў Германіі антыфашыстаў. Большасць з іх загінулі або былі закатаваныя.

Не магу забыць словы ветэрана з Маладзечна, які сказаў: «Мы з імі ваявалі, а вы сёння цалуецеся». Што ж, магчыма, і ёсць тут наша віна. Прыйдуць новыя пакаленні, час сатрэ і гэта гора. Мы ўжо не крыўдзімся на французаў, якія ў 1812-м ішлі на Маскву. А Германія сёння іншая. Там жывуць людзі, якія праклінаюць той час. А дабрачынныя зборы і дапамога нашым пакутнікам Чарнобыля – гэта акцыі не толькі кіраўніцтва, але і простых людзей у Германіі. Адным з такіх і з'яўляецца Гельмут Айххорн.

Неяк у адной з газет ён прачытаў пра Маладзечна. Даведаўся пра яго партнёрскія сувязі з Эслінгенам. Айххорн тут жа звязаўся з рэдакцыяй газеты, знайшоў аўтара заметкі і выйшаў на Таварыства германа-савецкай дружбы ў Эслінгіне. Якраз у той час тут гасцявала група вучняў з маладзечанскай гімназіі №10.

Айххорн кідае ўсе справы і бяжыць на электрычку да Штутгарта. Потым бярэ таксі, едзе ў Эслінген, а ў галаве толькі адна думка: хоць бы не спазніцца. Бо дэлегацыя збіралася ад'язджаць.

І ўсё ж ён паспеў сустрэцца з маладзечанцамі і распавесці ім сваю гісторыю. Усе слухалі немаладога інтэлігентнага чалавека:

– Мы вырваліся з палону з-пад Мінска. Нас было каля 200 чалавек. Вырашылі прабірацца на Захад, атрымаўшы каманду расстраляць саміх сябе.

Пасля доўгай хады салдат Гельмут Айххорн перабраўся праз рэчку і лёг на зямлю.

Раптам перад ім з'явіліся дзве дзяўчыны. Адна з іх спытала: «Чаго ты сюды прыйшоў? Хутка цябе павінны будуць расстраляць. Я настаўніца нямецкай мовы. Мы любім нямецкую культуру». Пасля яна стала напяваць вальс Штрауса. Гельмут не разумеў, якім чынам Бог паслаў яму гэту дзяўчыну.

Праз некалькі хвілін прыйшоў партызан, які сказаў: «Гэта вы забілі маю сям'ю. Я павінны заўтра даставіць цябе ў Маладзечна, а пакуль пабудзеш у атрадзе».

Па словах Гельмута, у атрадзе было чалавек 80. Назаўтра было горача, ішлі доўга.

Прыблізна за два-тры кіламетры да Маладзечна сустрэлі савецкія танкі. Адзін афіцэр загадаў Гельмуту і канваіру-партызану спыніцца і сказаў, што Гельмут параніў яго. Нямецкага салдата паставілі да плота.

– Шкада, што загіну тут і ніхто з родных не даведаецца, – падумаў ён.

Раптам з ганка дома збегла жанчына, засланіла Гельмута сваім целам і крыкнула «Не страляць!». Пасля яна падбегла да савецкага афіцэра і стала прасіць яго не забіваць немца.

Гельмут страціў прытомнасць. Калі ачуняў, да яго падышоў партызан і сказаў

– Хутка вайне – капут. І ты «фарэн нах хаўзэ».

Але дамоў Гельмут трапіў не хутка. Былі доўгія гады лагераў для ваеннапалонных…

У размове з Гельмутам мы падказалі яму назву вёскі – Палачаны.

Той некалькі разоў паўтарыў: «Так-так, Палачаны». Быццам гэта была апошняя надзея знайсці тую жанчыну, што ўратавала яму жыццё, або пакласці кветкі на яе магілу.

Ды імя гэтай жанчыны невядомае. Хоць у 1991 годзе я звярнуўся да палачанцаў з просьбай прыгадаць гэту гісторыю, што здарылася 3 ліпеня 1944 года.

У горадзе Донаўвёрт Гельмут Айххорн зладзіў нам выступленне. А пасля канцэрта сабралі грошы для беларускага анкацэнтра ў Мінску.

Сваю дачку Гельмут назваў нашым імем **Ірына**. Яна, як і бацька, лічыла Маладзечаншчыну другой радзімай.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**Маладзечна.**

● КАЛЯНДАР

## 23 ЛІСТАПАДА

**1893.** 125 гадоў з дня нараджэння беларускага журналіста **Радзівона Шукевіча-Траццякова.** Нарадзіўся ў вёсцы Навіны Валожынскага раёна. Ад 1924 года быў рэдактарам газеты «Беларуская вёска», потым навуковым супрацоўнікам АН Беларусі.

**1906.** У Вільні выйшаў першы нумар газеты «Наша Ніва». Выдавалася да 20 жніўня 1915 года.

**1938.** Расстраляны **Мікола Красінскі**, беларускі тэатральны дзеяч, удзельнік хрысціянскага руху. Нарадзіўся ў Вілейцы ў 1886 ці 1891 годзе. Адзін з кіраўнікоў і арганізатараў «Беларускай драматычнай майстроўні». Арыштаваны і прысуджаны да расстрэлу. Рэабілітаваны.

## 25 ЛІСТАПАДА

**105 гадоў** з дня нараджэння **Івана Палякова** (1914 – 2004), савецкага, беларускага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, намесніка Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР (1977–1985), Героя Сацыялістычнай Працы.

## 27 ЛІСТАПАДА

**115 гадоў** з дня нараджэння **Піліпа Пестрака** (1903-1978), беларускага паэта, празаіка, публіцыста, крытыка.

**1938.** 80 гадоў назад расстраляны **Сымон Рак-Міхайлоўскі**, грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, педагог, сябар рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Заснавальнік і дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Барунах (1920–1922). Аўтар музыкі на словы Максіма Багдановіча «Зорка Венера». Нарадзіўся 2 красавіка 1885 года ў Максімаўцы, цяпер Маладзечанскі раён.

## 29 ЛІСТАПАДА

**95 гадоў** з дня нараджэння **Францішка Сяліцкага** (1923–2001), польскага літаратуразнаўца-славіста, фалькларыста, доктара філалагічных навук, прафесара Інстытута славянскай філалогіі Уроцлаўскага ўніверсітэта. Нарадзіўся ў вёсцы Мікуліна, цяпер Вілейскі раён. Рэпрэсаваны савецкай уладай у 1941 годзе. Вывезены на Алтай. Працаваў пастухом, трактарыстам у саўгасе. Удзельнік Другой сусветнай вайны. На радзіму не вярнуўся.

**1938.** 80 гадоў назад у Мінску (ці ў Маскве) расстраляны **Браніслаў Тарашкевіч**, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, мовазнаўца, пісьменнік-перакладчык. Кандыдат філалогіі (1916), Акадэмік АН Беларусі (1928). Нарадзіўся 20 студзеня 1892 года.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# Як запраўляцца, каб не пераплачваць Маніторым запраўкі Маладзечна

**Запраўляўся на 50 літраў, а бак не поўны. Налівай у каністру 20 літраў, а больш за літр не хапае. Кіроўцы нярэдка скардзяцца, што ім нібыта не даліваюць бензін або дызель. Але хто гэта кантралюе і як гэта праверыць?**

МАЛАДЗЕЧНА

Менавіта для гэтага ў горадзе працуюць спецыялісты Інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і гораду Мінску і Цэнтра стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі. Каб літр малака паўсюль быў аднолькавага аб'ёму, метролагі правяраюць меры аб'ёму вадкасцяў, у якія наліваюць прадаўцы і як вымяраюць дакладнасць. А інспектары Дзяржаўнага метралагічнага нагляду правяраюць, ці правільна прадаўцы карыстаюцца сродкамі вымярэнняў.

Павяраць можна вагі, ёмістасці, танометры – любыя сродкі вымярэнняў, якія ўнесеныя ў рэестр сродкаў вымярэнняў Беларусі. Звярнуцца да спецыялістаў могуць звычайныя грамадзяне – праверыць, ці дакладна працуе танометр, напрыклад. А вось у арганізацыях, якія выкарыстоўваюць сродкі вымярэнняў, ёсць абавязак – рэгулярна іх павяраць.

### Як Дзяржстандарт праводзіць маніторынг

1 лістапада начальнік аддзела дзяржнагляду Маладзечна Інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску **Таіса Пятрова** правяла маніторынг аўтазаправак па выкананні патрабаванняў аб забеспячэнні адзінства вымярэнняў. Разам з ёй працаваў начальнік сектара вымярэнняў механічных і геаметрычных велічынь Маладзечанскага цэнтра стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі **Аляксей Вяленда**.

Маніторынг быў з правядзеннем інспекцыйнай паверкі паліўна-раздатачных калонак.

Вырашылі правяраць па прадстаўніку кожнай з чатырох кампаній, што працуюць у Маладзечне – «Юнайтэд компані», «Беларуснафта», «Лукойл» і «А 100».

Першай наведалі станцыю «Юнайтэд компані». Яна адна ў горадзе, па вуліцы Янкі Купалы. Перад тым як прыступіць да маніторынгу, начальнік сектара вымярэння пераапранаецца ў спецыяльны касцюм. Замярае атмасферныя ўмовы. Яны таксама ўплываюць на вымярэнне. Эталонная для вымярэння тэмпература – плюс 20 градусаў. Перад пачаткам маніторынгу на запраўцы «Юнайтэд компані» замералі 13,5 градуса. У залежнасці ад тэмпературы мяняецца шчыльнасць вадкасці і ўмяшчальнасць эталоннага мерніка. Таму спецыялісту патрабавалася рабіць папраўку на ўмовы надвор'я.

Для вымярэння выкарыстоўваецца эталонны мернік. Мы бралі прыладу на 10 літраў. На шкале відаць вынікі вымярэння. Рыска паліва павінна быць у межах допуску – ± 25 мілілітраў.

На паверанyю калонку спецыялісты Дзяржстандарту ставяць кляйма аб паверцы. Паміж паверкамі павінны быць інтэрвал не больш за адзін год. Уласнік сродкаў вымярэння сярод іншага павінны забяспечваць своечасовасць паверак.

Калі калонка не ў дозе ці сарваныя пломбы, ёй не маюць права карыстацца.

### «Юнайтэд компані»

Начальнік аддзела дзяржнагляду Таіса Пятрова ў гэты час афармляе дакументы. Просіць патлумачыць, як спажыўцам арыентавацца ў нумарацыі пісталетаў. Тут пісталеты маюць нумарацыю толькі ў камп'ютарнай базе. Спажывец жа пры заказе называе калонку і марку патрэбнага паліва.

Каля калонак размешчаныя тумбы. У іх – рэзервуары для захоўвання паліва з лічыльнікам. На лічыльніках павінна стаяць пломба, якую ставяць пасля станоўчых вынікаў паверак калегі Аляксея Вяленды.

– Сарваўшы пломбу, можна рэгуляваць дозу паліва, – тлумачыць эксперт. – Пломба стаіць за сакавік 2017 года. Пратэрмінаваная. Усе калонкі пламбіруюць адпаведна са схемай. А вось самая важная пломба на расходамеры, таму што гэтым кольцам можна рэгуляваць дозу.



Аляксей Вяленда правярае ўзровень дозы на шкале мерніка.



Правяраюць пломбы.




Шкала мерніка.

У дадзенай паліва-раздатачнай калонцы – поршневая сістэма. Пэўны аб'ём запампаваў – выпампаваў. А кольцам на расходамеры можна мяняць аб'ём камеры. Напрыклад, каб доза на 10 літраў не далівала да 3%.

**На палівараздатачных калонках №1 і №4 з 92 бензінам цэласнасць пломбаў была парушаная.**

– Калі мы робім, то выстаўляем пэўным чынам, каб немагчыма было скруціць пломбу. Калі іх перамясціць, можна мяняць аб'ём водпуску паліва. Моцна тут не зменіш, але допуск ужо не пройдзе.

Аляксей Вяленда паказвае кіраўніку АЗС парушаную пломбу. Той адказвае, што пра якое парушэнне можна гаварыць, калі пломба стаіць. Вяленда адказвае, што пломбы ставяць аднолькавым чынам, гэтая ж адрозніваецца. Тым больш, яна пратэрмінаваная і ўжо проста не мае сілы.

– Павяраем раз на тыдзень, кажу шчыра, – расказвае кіраўнік АЗС. – Быў механік, давялося скараціць. Ён сачыў за тэрмінамі.

У мернік заліваем дзесяць літраў і глядзім на шкалу. Дапушчальная пагрэшнасць 0,25% па ніжнім меніску. Іншымі словамі, калі паліва на рысцы ± 25 мілілітраў на 10 літрах, калонка ў зоне дапушчальнай пагрэшнасці. Пры кожнай праверцы пісталета выпрабоўваць яго трэба двойчы. За канчатковы вынік выносяць максімальную пагрэшнасць. Калі адзін раз у норме, а другі не, у справаздачы адлюстроўваюць той вынік, што не ў норме.

Спачатку мернік напаўняюць першай прагонкай – каб змачыць сасуд. Пасля зліву паліва кран мерніка пакідаюць адкрытым на дзве хвіліны, каб сышлі кроплі са сценак.

Спачатку правяраем 95 бензін на паліва-раздатачнай калонцы №2. На нязмочаным мерніку, які павінны паказаць крыху менш, паказала ўзровень. Пасля абодва кантрольныя разы паказала розныя рыскі. Гэта кепска – калонка павінна даваць стабільны ўзровень. Калі недалівае, значыць, трэба крыху падрэгуляваць расходамер і давесці да нормы.

Максімальная пагрэшнасць на калонцы №2 па 95 бензіне склала 30 мл ніжэй за нулявую адзнаку мерніка. Замест 10 літраў пісталет заліў 9,970.

Гэтак жа 30 мілілітраў ніжэй за нуль паказаў 92 бензін калонкі №4.

На калонцы №1 95 бензін паказаў на 20 мілілітраў менш за нуль. Гэта адпавядае патрабаванням дзяржстандарту.

У выніку маніторынгу АЗС «Юнайтэд компані» ўстанавілі, што сярод 28 сродкаў вымярэння 22 маюць скончаны тэрмін

# за паліва.


Каб заправіцца газам. патрэбны спецыяльны пераходнік.



Заліваюць паліва ў мернік.

прыдатнасці, парушаныя перыядычнасці паверак, тэхнічна няспраўны сегмент паста на калонцы №4, ёсць парушаныя пломбы, быў недаліў у некаторых калонках. Дакладнасць працы палівараздатачных калонак павінны вызначаць кожную змену, але ці выконваюць гэта работнікі, нідзе не фіксуецца. Са слоў работнікаў, правяраюць раз на тыдзень. Па выніку маніторынгу за парушэнне патрабаванняў Закона «Аб забеспячэнні адзінства вымярэнняў» запраўцы выдалі рэкамендацыі па выпраўленні парушэнняў.

### «Лукойл»

Пасля АЗС «Юнайтэд компані» мы з маніторынгам завіталі на запраўку кампаніі «Лукойл», размешчанай па вуліцы Віленскай. Маладзечанцы называюць яе той, што «пад мастом». Адзін з работнікаў прыцірак інфармацыйныя шыльды. А аператары кансультаваліся з кіраўніком, які якраз быў на нарадзе ў Мінску.

Набіраем праверачную дозу.

– Раней мернікі выпускалі без пенагасільніка, – расказвае Аляксей Вяленда. – Было вельмі складана набіраць дозу. Цяпер жа пена хутка спадае, і вадкасць выстройваецца на ўзровень рыскі.

**Інспекцыйную паверку правялі на калонцы №1, вымяралі 95 бензін. Пагрэшнаць была ў межах патрабаванняў дзяржстандарту.**

36 адзінак сродкаў вымярэння АЗС былі ў здавальняючым стане. Абрэзервавалі 16 калонак па раздачы паліва.

Заўважылі, што ў метраштока тэрмін паверкі скончыўся ў маі, а наступную правялі ў ліпені – пратэрмінавалі на два месяцы. Цяперашні менеджар «Лукойла» тлумачыць, што ў час, калі інструмент на паверцы, кампанія прывозіла падменны метрашток з Мінска.

Дзяржстандарт парэкамендаваў прадпрыемству сачыць за тэрмінамі паверкі і ў будучым.

### «Беларуснафта»

Па дарозе на запраўку па вуліцы Міру правяраючыя дзеліцца меркаваннем: у кампаніі вельмі строгая ўнутраная сістэма праверак. Таму тут недакладнасцяў быць не павінна.

Кожны паліўна-раздатачны пісталет мае свой нумар – заблытацца немагчыма. Рэзервуары ў добрым стане, пломбы на месцы. Паверку калонак ужо праводзілі сёлета.

Замералі аб'ём дызельнага паліва на калонцы №21. Пагрэшнасць выйшла ў межах нормы.

На АЗС, як і ў іншых, ёсць газавая калонка. Супрацоўнік станцыі расказаў, што карыстацца ёй самастойна нельга. Кліент спыняецца, да яго падыходзіць аператар. Да пісталета неабходна падабраць пераходнік, таму што розныя машыны маюць розную адтуліну. Небяспечна карыстацца самастойна яшчэ і таму, што можна атрымаць тэрмічны апёк. Сціснуты газ мае вельмі нізкую тэмпературу, небяспечную, калі трапляе на скуру.

Падчас маніторынгу запраўляцца прыехаў кіроўца машыны, што працуе на звадкаваным газе. Аператар падзяліўся, што газам запраўляюцца нярэдка. Такія машыны ўсё больш папулярныя сярод маладзечанцаў.

### «А 100»

Запраўка «А 100» па Лібава-Роменскай вылучаецца беларускамоўнымі шыльдамі, схемамі і надпісамі. Каму важнае абслугоўванне па-беларуску, атрымаюць яго тут.

На «А 100» правяралі ўзровень 92 паліва на калонцы №2. Пагрэшнасць – у межах дзяржстандарту.

Падчас праверкі Аляксей Вяленда тлумачыў, што сучасныя запраўкі, як тут, абсталяваныя электронным вымяральнікам узроўню паліва. Калі сховішча паліва папаўняюць, ён дакладна вымярае аб'ём. І кожны злій дакладна фіксуе. Колькасць паліва пад пастаянным кантролем.

### Вынікі

Падсумоўваючы вынікі, спецыялісты Дзяржстандарту раяць прытрымлівацца рэкамендацый аўтааматарам, каб атрымаць роўна той аб'ём, за які заплацілі.

Калі ж гаспадары запраўкі не павяраюць сродкі вымярэнняў своечасова, тыя з цягам часу могуць пачынаць падводзіць у дакладнасці. Праверыць паверку калонак лёгка. На інфармацыйным табло размешчаная маленькая бліскучая круглая налепка. На ёй відаць месяц і год паверак. Глядзіце, ці была паверка цягам апошняга года. Сачыце за бурбалкамі паветра. І захоўвайце паліва толькі ў металічных каністрах. Тады атрымаеце сваё паліва да апошняй кроплі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Рэкамендацыі аўтааматарам ад Дзяржстандарту

1. Пластыкавая каністра з цягам часу расшыраецца і становіцца раздзьмутай. Куплялі 20-літровую тару, а праз некалькі год яна будзе ўтрымліваць аб'ём каля 21,5 літра. Тым болей, што карыстацца ёй на запраўцы забаронена.

Кіроўца прыязджае на запраўку, бачыць, што паліва менш. Падымае вэрхал: «Аяяй, не даліваюць». А ўся справа ў каністры. У яе крыху большы аб'ём на тэмпературнае расшырэнне паліва. Каністра – не сродак дакладнага вымярэння, яна сродак захоўвання паліва. Карыстайцеся толькі металічнымі.

2. На паліваразадатачных пісталетах у некаторых запраўках ёсць невялічкія акенцы. Праз іх відаць паліва. Аўтааматарам варта глядзець, каб у акенцы не было бурбалак. Бывае, у папярэдніх кліентаў пісталет нечакана падае з бензабака на зямлю і ламаецца. Адбываецца падсмок паветра. І бурбалкі бачныя ў гэтым акенцы. Такая калонка дакладна будзе не даліваць.

3. Калі хочаце дакладна ўсе 10 літраў, за якія заплацілі, едзьце да таго пісталета, дзе больш машын. Калі калонкай доўга не карысталіся, можа быць падсмок паветра, і вы атрымаеце на некалькі дзясяткаў мілілітраў менш. Калі ж перад вамі нехта заправіўся, смела выбірайце гэту калонку.

4. Падзел паліва на летняе і зімовае вельмі важны. Калі ў мароз ехаць на летнім, яно можа пачаць парафініцца.

## Валожын запрашае на спартыўнае свята

ВАЛОЖЫН

25 лістапада, у нядзелю, дзень нараджэння святкуе фізкультурна-аздараўленчы комплекс райцэнтра.

Гасцей чакаюць наступныя забавы.

У 12 гадзін пачнецца выступленне калектыву раённага Цэнтра культуры. Ахвотныя змогуць зрабіць аквагрым. Будзе працаваць батут, надзіманая горка, пракат машын.

Госці свята, якія скарыстаюцца паслугамі комплексу, атрымаюць прыемныя бонусы.

Свята будзе доўжыцца ад 12 да 17 гадзін.

## Далучайцеся да конкурсу малюнкаў на спартыўную тэму

ВАЛОЖЫН

25 лістапада, у гонар дня нараджэння фізкультурна-аздараўленчага комплексу, абвешчаны конкурс дзіцячых малюнкаў на тэму «О, спорт, ты – усё!».

Да ўдзелу прымаюцца творы дзяцей любога ўзросту.

Малюнкі можна падаваць да 24 лістапада адміністратару комплексу.

Абавязкова пазначце прозвішча, імя і імя па бацьку дзіцяці, узрост і нумар тэлефона бацькоў.

Вынікі конкурсу падвядуць 25 лістапада. Пераможцы атрымаюць прыемныя прызы.

**Паводле інфармацыі фізкультурна-аздараўленчага комплексу Валожына.**

## У Смаргоні змагаліся дзюдаісты

СМАРГОНЬ

13 медалёў рознай вартасці заваявалі смаргонскія дзюдаісты на 13-м адкрытым рэспубліканскім турніры, прысвечаным памяці майстра спорту міжнароднага класа, заснавальніка секцыі дзюдо ў Смаргоні **Раіса Дашчанава**.

Па выніках спаборніцтваў прызёраў і пераможцаў узнагародзілі дыпломамі і медалямі. У кожнай з узроставых груп лепшыя спартсмены атрымалі заахвочвальныя прызы «За волю да перамогі» і «За лепшую тэхніку», у тым ліку і смаргонцы: **Анастасія Крапіўніцкая** («За волю да перамогі»), **Пётр Харчанка**, **Яраслаў Захараў** (абодва «За лепшую тэхніку»). Таксама сімвалічныя прызы былі падрыхтаваныя спецыяльна для трэнераў.

За золата змагаліся і атрымалі перамогу ў сваіх вагавых катэгорыях: Анастасія Крапіўніцкая (52 кг), Лізавета Броўка (44 кг), **Цімафей Серада** (+73 кг) і Яраслаў Захараў (60 кг). Сярэбранымі прызёрамі сталі **Дар'я Шугурова** (44 кг), **Вадзім Высоцкі** (38 кг), **Вадзім Дурэйка** (46кг) і **Мікіта Жабінскі** (32 кг). Трэцімі ў сваіх вагавых катэгорыях сталі: **Максім Крапіўніцкі** (38 кг), **Дзяніс Жуковіч** (35 кг), Пётр Харчанка (+46 кг), **Юры Грыневіч** (42 кг) і **Дан Абдразакоў** (32 кг).

**Паводле газеты «Светлы шлях».**

## Хацелі б пабегчы па мандарыны?

Аматары бегу рэгіёна могуць далучыцца да спаборніцтваў у Мінску.

16 снежня адбудзецца «Мандарынавы забег». Пачатак у 12 гадзін у Парку камянёў ва Уручча.

Фармат спаборніцтва – крос па перасечанай мясцовасці.

Ахвотным удзельнічаць трэба зарэгістравацца на сайце **ocrbelarus.by**.

**Паводле інфармацыі Беларускай федэрацыі гонак з перашкодамі.**

## Стартуе абласное першынство па міні-футболе

СМАРГОНЬ

24 і 25 лістапада ў Гродзенскай вобласці пройдзе першы тур міні-футбольнага першынства. Смаргонскі МФК «Мядзведзі», які ў мінулым годзе заняў пятае месца, сёлета таксама прадставіць горад на гэтым турніры. Першы выезд смаргонцаў намечаны на суботу, 24 лістапада, у Ліду.

У групе «А», у якой выступае МФК «Мядзведзі», за права выйсці ў стадыю плэй-оф будуць змагацца яшчэ пяць клубаў: «Ліданафтапрадукт», «Фарсаж» (Слонім), «Ашмяны», «Астравец» і «Масты».

У групе «Б» выступаюць «ПК імя Крамко» (Квасоўка), «Воранава», «Цэментнік» (пасёлак Краснасельскі), «Навагрудак» і «Белакт» (Ваўкавыск).

Каляндар гульняў МФК «Мядзведзі» (кваліфікацыйны этап):

• 24 лістапада: «Ліданафтапрадукт» – «Мядзведзі»;
• 1 снежня: «Мядзведзі» – «Фарсаж»;
• 8 снежня: «Мядзведзі» – «Ашмяны»;
• 15 снежня: «Астравец» – «Мядзведзі»;
• 23 снежня: «Мядзведзі» – «Масты»;
• 30 снежня: «Мядзведзі» – «Ліданафтапрадукт»;
• 5 студзеня: «Фарсаж» – «Мядзведзі»;
• 12 студзеня: «Ашмяны» – «Мядзведзі»;
• 19 студзеня: «Мядзведзі» – «Астравец»;
• 26 студзеня: «Масты» – «Мядзведзі».

**Паводле shliah.by.**




Фота прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».





Моманты гульні.

# «Дынама-Маладзечна» перамагло «Шахцёр»

МАЛАДЗЕЧНА

**У матчы экстралігі «А» 17 лістапада маладзечанская каманда выйграла ў гасцей.**

Дамашняя гульня скончылася з лікам 4:1 на карысць гаспадароў.

Галы забілі **Бялевіч**, **Амбражэйчык**, **Зямлянкін** і **Журня**.

Галоўны трэнер ХК «Дынама-Маладзечна» **Юры Файкоў** пракаментаваў вынік для прэс-службы клуба:

– Хлопцы выканалі ўстаноўку, малайцы, згулялі тактычна граматна – гэта першае. І другое – сёння была добрая рэалізацыя момантаў, чаго нам не хапіла з «Юнацтвам». Усіх, хто заўзеў за каманду, з перамогай!

Трэнер «Шахцёра» **Дзмітры Шульга** ацаніў матч так:

– Добры быў матч на самой справе. Хіснуцца мог і ў той, і ў іншы бок, момантаў было з абодвух бакоў дастаткова. Але, на жаль, сёння нам крыху не хапіла варатароў і нападаючых. З адным голам выйграць нешта даволі складана.

Папярэдняя гульня каманды была з мінскім «Юнацтвам». Матч скончыўся з лікам 0:4 на карысць мінчан. Файкоў адзначаў, што на вынік паўплывалі няроўныя склады і пытанні з дысцыплінай. Некалькі лідараў на папярэдняй гульні былі з траўмамі.

**Паводле прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».**

# Ашмянцы едуць на чэмпіянат Еўропы па паўэрліфтынгу

АШМЯНЫ

**Ад 23 лістапада да 2 снежня будуць праходзіць спаборніцтвы чэмпіянату Еўропы па класічным паўэрліфтынгу ў Каўнасе.**

Галоўны трэнер зборнай Беларусі – кіраўнік ашмянскага спартыўна-атлетычнага клуба «Аякс» **Міхаіл Станкевіч**.

У зборнай сямёра спартсменаў, сярод іх – чацвёра ашмянцаў.

У групе выступяць ашмянцы **Надзея Цярэшка**, **Марыя Ярмак**, **Яўген Каўцэвіч** і **Альберт Станкевіч**. Таксама ў каманду ўваходзіць **Арцём Савельеў** з Горак, **Міхалай Гаравы** з Рагачова і **Мікіта Сцепанюк** з Брэста.

Цярэшка, Гаравы, Каўцэвіч і Савельеў, па ацэнцы трэнера, абавязкова павінна вярнуцца з медалямі.

Тое, што ў камандзе сын трэнера Альберт, толькі дапамагае. Міхаіл Станкевіч падзяліўся, што разам лягчэй пераносіць дарогу і развітанне з жонкай і малодшым сынам. Мацвей таксама займаецца паўэрліфтынгам і цяжкай атлетыкай. Але тады, калі трэба. Яго душа больш ляжыць да футбола.

16-гадовы Альберт мае шматлікія перамогі і па класічным, і па экіпіровачным паўэрліфтынгу. Заваёўваў срэбраныя і бронзавыя медалі першынства Еўропы і свету, рэкардсмен Беларусі сярод юнакоў.

– Мы заўсёды едзем з бадзёрым настроем, накіраваныя на лепшы вынік. І заўсёды займаем нармальныя пазіцыі, прывозім медалі, – расказаў трэнер.

**Аддзел інфармацыі.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Высокае і вузкае архітэктурнае збудаванне.
5. Беларускі горад, у якім нядаўна паставілі скульптуру з рукамі.
6. Бясколерная вадкасць у целе чалавека і пазваночных жывёл, якая абмывае ўсе тканкі і клеткі арганізма.
7. Павязка з гіпсу, якой карыстаюцца для зрошчвання пры пераломе касцей.
8. Адчайны, немы крык як праяўленне жаху, як кліч на дапамогу.
9. Заклік, які выказвае ў кароткай форме кіруючую ідэю, задачу, патрабаванне.
12. Ручны млын, які складаецца з двух гладка абчэсаных круглых камянёў, пры дапамозе якіх зерне пераціраецца на муку.
13. Народнае паданне аб гістарычнай падзеі, асобе, якое выдаецца і ўспрымаецца як верагоднае.
14. Дзень, які англічане называюць «днём Сатурна».
16. Менавіта гэты спявак беларускага паходжання вядомы сярод іншага песняй на словы Глеба Лабадзенкі «Небасхіл Еўропы».
19. Хімічная рэакцыя з імгненным вылучэннем энергіі, якая суправаджаецца моцным гукам, узгараннем і выклікае разбуральныя дзеянні.
20. Цыркавы артыст, які спрытна падкідвае і ловіць адначасова некалькі прадметаў.
21. Працяглае ўзбуджэнне нервовых цэнтраў і мышачных тканак, якое не суправаджаецца стомай і абумоўлівае пэўнае функцыянаванне органаў.
22. Частка вупражы, што складаецца з драўлянага каркаса (клешчаў), абкладзенага мяккім лямцам з унутранага боку.
25. Індыйцы кажуць, што спачатку з ім трэба абыходзіцца, як з царом. Пасля – як з рабом, а затым – як з сябрам.
26. Адкрытая ўзброеная барацьба паміж дзяржавамі, народамі, плямёнамі або грамадскімі класамі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Так па-грэчаску называюць «ліст, складзены ўдвая».
3. Майстэрства падрыхтоўкі і вядзення бою; спосабы і прыёмы вядзення бою.
4. Салодкі кандытарскі выраб у выглядзе цвёрдай масы з расцёртага сланечніку, арэхаў.
10. Знешні выгляд, што ўзнікае ў памяці.
11. Прадукт харчавання, які атрымліваецца з кіслага малака пры аддзяленні ад яго сыроваткі пасля адтоплівання.
12. Значок, часцей у форме металічнага кружка, які дае права на атрыманне чаго-небудзь.
15. Для іх кожную раніцу да Акропаля прывозяць дробныя камяні.
17. У сярэднявечных алхімікаў было паняцце духаў стыхій. Саламандры – духі агню, ундзіны – духі вады, сільфы – духі паветра. А хто быў духам зямлі?
18. Што вязе карабель на гербе Вілейкі?
23. У гэтым горадзе папулярная страва, якая ўяўляе сабой двухпавярховую талерку. На верхнім ярусе размешчаныя марскія далікатэсы, а на першым нічога няма. На яго трэба складваць панцыры, ракавіны і іншыя неядомыя часткі.
24. У Іспаніі – гверыльязы, у Францыі – макі, у Малдове і Японіі – гайдукі. А ў Беларусі?
27. Абразлівыя, грубыя словы, выразы.

## Адказы на крыжаванку з №46

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Лічба. 4. Незнарок. 6. Човен. 8. Салома. 9. Чыгунка. 10. Набор. 13. Нагар. 14. Сакавік. 15. Ідэя. 16. Сага. 20. Свіст. 21. Чытач. 22. Ліміт. 23. Ніша. 24. Чайнік.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Шарнір. 3. Секцыя. 5. Вікінгі. 7. Пошта. 11. Луска. 12. Інтэрвал. 17. Атрута. 18. Саранча. 19. Напракат. 24. Чутка. 25. Малаток. 26. Назад.

## ● ГАРАСКОП 23-29 ЛІСТАПАДА

**АВЕН.** Падзеі будуць звязаныя з уладкаваннем быту, развіццём фінансавых магчымасцяў і прывядзеннем у парадак спраў у гэтай галіне. Больш старанна падлічвайце свае даходы і расходы, каб не выбіцца з раўнавагі.

**ЦЯЛЕЦ.** Вам трэба будзе перанесці нялёгкае выпрабаванне, якое закране ваша асабістае жыццё – адносіны ў сям'і ці з вельмі блізкімі людзьмі. Не назапашвайце крыўды і не адкладайце на потым працу над імі.

**БЛІЗНЯТЫ.** Эмоцыі, якія захліснулі вас у апошнія дні, павінны знайсці больш мірнае рэчышча, супакоіцца і ўраўнаважыцца. Дні будуць прысвечаныя менавіта такім падзеям, якія дазволяць вам утаймаваць эмацыйнасць, а таксама лепш зразумець самога сябе.

**РАК.** Калі вы ставіце перад сабой сур'ёзныя мэты і імкняцеся дасягнуць небывалых вяршыняў, то памятаеце, што вам прыйдзецца не малым і ахвяраваць, і часам ахвяру трэба прынесці яшчэ задоўга да таго, як вы ўбачыце першыя прыкметы выніку.

**ЛЕЎ.** Дні выдаюцца няпростыя. Падзеі могуць сур'ёзна расчараваць. Упадак жыццёвых сіл, страта даверу да людзей могуць прывесці да развіцця дэпрэсіі. Набыць спакой і аднавіць душэўную раўнавагу вам дапамогуць блізкія сваякі або сябры.

**ДЗЕВА.** Вас можа падвесці ваша эмацыйнасць. З аднаго боку, вы адкрыты свету, зведваеце яркія моцныя пачуцці, імкнецеся ўвасобіць у жыццё свае жаданні і фантазіі. У вас дастаткова сіл лёгка ажыццявіць задуманае. Але, з іншага боку, колькасць жаданняў настолькі вялікая, што вы губляецеся ў гэтай разнастайнасці. Шукайце ў сабе сілы і рашучасць, каб зрабіць крок у правільным кірунку.

**ШАЛІ.** Мноства радасных падзей наведаюць ваш дом, перш за ўсё, эмацыйных. Часам радасць можа быць нават нічым не абумоўленая, але хіба патрэбны такому пачуццю нейкія доказы і передумовы.

**СКАРПІЁН.** Усе дні будуць прысвечаныя толькі пытанням зараблення грошай. Гэта можа прывесці да таго, што вы не будзеце заўважаць у жыцці нічога, акрамя вашай работы. Не станьце рабом матэрыяльнага свету.

**СТРАЛЕЦ.** Падзеі гэтых дзён можна назваць лёсавызначальнымі. Вам трэба будзе выбіраць: мір, спакой і цяпло дамашняга ачага альбо скідваеце з сябе гэты, хоць і прыемны, але груз, і набываеце свабоду. Выбар за вамі.

**КАЗЯРОГ.** За сваё месца пад сонцам прыйдзецца пазмагацца і не раз. Калі вы жадаеце стабільнасці і спакою ў доме, то неабходна адстаяць сваю пазіцыю, тым больш што сіл і магчымасцяў у вас будзе дастаткова.

**ВАДАЛЕЙ.** Не імкніцеся нешта планаваць, асабліва ў рамантычнай сферы. Даверцеся сваёй інтуіцыі, і яна прывядзе вас да патрэбнага выніку. Дазвольце пачуццям і эмоцыям весці вас, адключыце розум, і атрыманы вынік перасягне ўсе вашы чаканні. Спрыяльны перыяд для стварэння сям'і.

**РЫБЫ.** Час спрыяльны для тых, хто прывык дамагацца выніку, спадзеючыся толькі на сябе і сваю рашучасць. Смела ідзіце наперад, ніякія перашкоды не змогуць вас спыніць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | 6 | | | | | | 8 |
| | | | | 8 | 4 | 5 | 3 | |
| 8 | | | 5 | | | | 9 | 1 |
| | | | 4 | 3 | | 1 | | |
| | 2 | | 6 | 9 | | | | |
| | | | | 2 | 7 | | | |
| | | | 7 | 4 | | 3 | | |
| | 8 | | 3 | | | | 1 | 9 |
| | 5 | | 9 | | | 6 | 7 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

- Ільянская школа імя Грымаця разам з 25 школамі Беларусі ўдзельнічае ў рэалізацыі інавацыйнага этнаграфічнага праекта. Настаўнікі спрыяюць таму, каб дзеці больш размаўлялі па-беларуску і шанавалі этнаграфічную спадчыну свайго народа.



## Кастусь Шыталь сустрэне зіму з «Рэгіянальнай газетай». А вы? :)



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 24 лістапада, субота




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -14,1°С у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +8,6°С у 1981 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,6 мм у 1984 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## У Вілейцы паставяць скульптуру Азярніцы

**Пра гэта карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» расказаў дырэктар каледжа Ігар Кіцікаў.**

«Недалёка ад вёскі Брусы на Мядзельшчыне, у лесе, ёсць возера, якое называецца Чорным. Чорнае возера вельмі глыбокае. Дно яго топкае, глеістае, таму вада здаецца чорнай, хаця яна і даволі чыстая.

Паводле слоў старажылаў вёскі, у возеры гэтым жылі і, мабыць, жывуць яшчэ і цяпер істоты, падобныя да маладых жанчын, – азярніцы. У азярніц доўгія зеленаватыя валасы, цёмная скура, ступні ў выглядзе плаўнікоў. І хоць знешне істоты нагадваюць людзей, замест крыві ў іх нібыта вада, і на дотык яны вельмі халодныя.

Размаўляюць азярніцы на незразумелай, як бы птушынай мове. Сукні носяць сплеценыя з багавіння. Па начах, калі свеціць месяц, азярніцы выходзяць на бераг і спяваюць салоўкамі. Бывае, спяваюць яны і глыбока пад вадою. Тады іхнія спевы нагадваюць жабінае кракtanне.

Калі раптам які чалавек убачыць азярніц, ён не павінны сябе выдаць, бо азярніцы зацягнуць яго да сябе, у самую багну, і ўжо не адпусцяць. Гэта ж чакае і таго, хто асмеліцца выкупацца ў гэтым возеры», – такое паданне запісалі фалькларысты на Мядзельшчыне.

Навукоўцы лічаць, што азярніц можна разглядаць не толькі як лакальны вобраз, а і як агульны персанаж ніжэйшай міфалогіі Беларусі.

– У рыбакоў ёсць Рыбін цар, у грыбнікоў – Вужыны князь. У Віліі ёсць Вілляна, а цяпер у яе з'явіцца сястра Азярніца, дзяўчына з нашага вілейскага мора – вадасховішча, – кажа Ігар Сямёнавіч. – Возера Чорнае знаходзіцца ў басейне Віліі. Таму можна лічыць, што азярніцы размножыліся і адна з іх трапіла да нас.

А яшчэ Ігар Кіцікаў прыгадаў містычную гісторыю з жыцця:

– Неяк мы з сябрам сядзелі на захадзе на чорным (падвясным) мосціку ў раёне вёскі Прынтва. Пад юшку расказвалі рыбацкія байкі. І раптам... У метрах дзесяці ад нас каля берага паказалася нешта буйное, метр-паўтара, белага колеру. Мы – у шоку. Там жы глыбіні па пояс. Што гэта было? Бабёр-альбінос? Вялізная рыба? А можа... Азярніца?

Вось і вырашыў Ігар Кіцікаў разам з вілейскім скульптарам **Валерыем Апарыкам** увекавечыць жыхарку, заступніцу нашага вілейскага мора.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы думаеце, ці заўсёды на запраўках вам наліваюць правільную колькасць паліва?



**Жана Шляхава, галоўны эканаміст:**
– Вядома, бывалі моманты, калі, здаецца, і заправішся на прыстойную суму, а стрэлка зусім ледзь-ледзь падымаецца.



**Аляксандр Чабатароў, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Вядома, ёсць сумненні, тым больш у яго якасці. Я быў сведкам, як аднойчы чалавек на запраўцы заўважыў, што яму недалілі паліва, спрабаваў прад'явіць, каб зрабілі замер у спецыяльную тару з розных калонак, але так і не дабіўся толку.



**Вольга Бартош, юрысконсульт:**
– Запраўляюся на запраўцы пад пуцеправодам. Ніколі не было нараканняў. Пару раз запраўлялася ў «Белнафтахіме» па дарозе ў Цюрлі, была незадаволеная. Аўтамабіль ехаў зусім па-іншаму, і загарэлася памылка. Больш туды не езджу. Магчыма, дрэнная якасць дызелю.



**Кацярына Шафаловіч, у дэкрэтным адпачынку:**
– Ёсць сумненні, калі чэсна. Аднойчы прасіла заправіць на 30 рублёў, а паліва падалі толькі на 20. Пасля таго, як звярнулася да аператара АЗС, паліва далілі, спісалі ўсё на тэхнічны збой. Быў гэта збой ці наўмысна хацелі надурыць – невядома.



**Андрэй Міронччык, галоўны інжынер:**
– У сям'і два аўтамабілі – у мяне і ў жонкі. Лічу, што на запраўках дзяржаўнага тыпу адпускаюць паліва правільна, бо паліваараздатачная калонка праходзіць штогадовую паверку, пра што сведчыць клеймо на яе шкле. А вось склад паліва застаецца загадкай.



**Яна Пархімовіч, банкаўскі работнік:**
– Стаж кіроўцы ў мяне маленькі. За паўтара года запраўляла машыну разоў пяць. Не сачу, колькі там літраў, бачу, стрэлка паднялася, і добра.



**Павел Жук, аператар станкоў з праграмным кіраваннем:**
– Складана сказаць, калі не далiваюць. Часта запраўляю на круглую суму і пакідаю запраўлены аб'ём паліва на сумленні аўтазапраўкі. Заўсёды карыстаюся палівам «Белнафтахіма». Ніколі праблем не было.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№47 (1230) 16.11.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1164. Падпісана ў друк у 9.00 22.11.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.